PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (1987) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 12 ЧЭРВЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Беласток, алея Пілсудскага.* **Фота Я. Целушэцкага**

# ВЫБАРЧАЯ ПАНАРАМА

*Чатыры гады таму, калі Беласточчына рыхтавалася да самаўрадавых выбараў, выглядала гэта на сапраўдны беларускі ўздым. Працавіта маляваліся афішы з „Пагоняй”, а беларускія выбарчыя камітэты ўзніклі ў Белавежы, Бельску, Боцьках, Кляшчэлях, Нараўцы, Нарве, Міхалове і Орлі.*

*Сёлета толькі ў Гарадку на выбары ідзе самастойны Беларускі выбарчы камітэт БДА. Беларускія выбарчыя камітэты, якія ўзніклі ў Беластоку, Бельску і Гайнаўцы далучыліся да іншых камітэтаў, створаных ці то праваслаўнымі, ці то левымі.*

*Чым растлумачыць ранейшы росквіт і цяперашні заняпад беларускіх выбарчых камітэтаў?*

*Проста няма ўжо пудзіла, якім была тады „Салідарнасць” і створаныя ёю Грамадзянскія камітэты. Чатыры гады таму „Пагоню” даводзілася маляваць, бывала, былым сакратарам ПАРП. Што ж было рабіць, калі мясцовыя таварышы — католікі — з той жа ПАРП абвешваліся якраз „рынграфамі”, „шкаплежамі” і гэтаму падобнымі ідэнтыфікатарамі нацыянальнай тоеснасці.*

*Цяпер, калі „Салідарнасць” ужо не тая і вораг не хапае ўжо за глотку, наш чалавек зыходзіць яму з вачэй і апранае ўлюбёны камуфляж. Я ўпэўнены, што большасць былых „беларускіх” кандыдатаў запаўняе цяпер рады „незалежных”.*

*Бо да выбараў ўсё-такі нашыя людзі рыхтуюцца. Іншаверная канкурэнцыя, вядома, не спіць, і ў любы момант гатовая перахапіць уладу ў гміне ці мястэчку.*

*На маю думку, гэтым і тлумачыцца надзвычайная перадвыбарчая актыўнасць Беласточчыны на фоне агульнапольскай абыякавасці. Аб формах гэтай актыўнасці чытачы змогуць даведацца з інфармацый і артыкулаў, які пад агульнай назвай „Выбарчая панарама” друкуем на 1, 3 і 4 старонках.*

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

## Беласток: беларусы — праваслаўныя і левыя

Беларускі выбарчы камітэт, створаны Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем 14 красавіка 1994 г. далучыўся да Выбарчага камітэта праваслаўных, які ўзнік 22 сакавіка. Такім чынам са спіска гэтага камітэта балатуюцца наступныя беларускія кандыдаты: **Юры Каліна, Пятро Крук, Алег Латышонак, Антон Міранові́ч, Славамір Назарук і Юры Хмялеўскі**. Сярод апошніх пераважаюць „свае людзі”, якім беларушчына таксама не чужая. У сувязі з тым кандыдаты ад Выбарчага камітэта праваслаўных заяўляюць у сваёй праграме: „... будзем клапаціцца аб раўнапраўнай трактоўцы культурных і асветных патрэб усіх жыхароў ды у асобнасці аб стварэнні Інстытута і Цэнтра беларускай культуры”.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства вырашыла далучыцца да Беластоцкай самаўрадавай кааліцыі — Лявіца, якая ў сваёй праграме выказваецца за ўшанаванне правоў і забеспячэнне патрэб нацыянальных і рэлігійных меншасцей у горадзе. Са спіска Беластоцкай самаўрадавай кааліцыі — Лявіца балатуюцца два беларускія кандыдаты: **Кастусь Масальскі і Янка Сычэўскі**.

Беларусы з'яўляюцца ў Беластоку прыкметнай, але сапраўды невялікай ужо меншасцю. Які-небудзь выбарчы поспех патрабуе ў такой сітуацыі выключнай еднасці. На жаль, надалей няма ў горадзе аб'яднальнай сілы, якая сабрала б усіх беларусаў пад беларускім сцягам. Застаецца спадзявацца, што ўсё-такі нехта з беларускіх кандыдатаў увойдзе ў гарадскую раду, каб прынамсі заявіць пра нашыя патрабаванні. У непрысутных, вядома, няма рацыі.

**А. Л.**

## Сямяцічы без камітэтаў

У горадзе Сямяцічы заснавалася некалькі выбарчых камітэтаў, але беларускага, як і раней, сярод іх няма. У Сямяціцкай гміне наогул не выступае амаль ніводзін камітэт.

Усё-такі нашы выбаршчыкі не павінны падаць духам. Неафіцыйна мы даведаліся, што „нашыя” кандыдаты зарэгістраваліся як незалежныя ва ўсіх выбарчых акругах горада і гміны.

**А. Л.**

☞ *Працяг на стар. 3*

# ЗАЧАРАВАНЫ КРАЙ

Ніхто сёння не ўмее назваць часоў, калі нарадзілася магія. Усе аднак жыхары беластоцкіх вёсак і гарадоў добра ведаюць яе смак і неабходнасць.

Героі майго рэпартажу гэта жыхары падляшскіх вёсак а таксама „панюсі і панове” — нядаўнія сяляне. Гаворачы аб усялякіх таемных абрадах мае героі не мелі свядомасці, што займаюцца грэшным рамяствам. Многія з іх за дапамогай сваім практыкам ішлі нават у царкву. Сярод апытаных ды падслуханых былі жанчыны і мужчыны — старыя, дарослыя, малыя. Усе прыклады паказваюць на тое, што ў магіі найбольшую ролю іграе чалавечая зайздрасць, прага помсты, справядлівасці ці самае няведанне той жа магіі.

Першы прыклад паказвае, як небяспечным можа быць

**нестараннае практыкаванне магіі.**

У Сцяпана К. ацялілася карова. Хутка аднак трэба было яе прадаць, бо грошай не хапала. Калі купец прыехаў па карову, цётка Ніна зрабіла сур'ёзную памылку. Не прыгадала сабе ў той жа момант, што цяляці трэба падстрыгчы хвост. Таму і, паводле жыхароў усяе вёскі, цяля пайшло ў „блуды”. Блукалася яно тры дні па пушчы, аж на чацвёрты дзень зславілі яго ўжо ў далёкіх Рыбаках. За ўсё гэтае Сцяпан К. ганяў сваю жонку два тыдні з сякерай, абяцаючы ёй хуткую смерць.

Таксама па прычыне нестараннай практыкі таемнага, мае бяду Саўка Д. Пазычыў ён суседу сеялку, жыта пасеяць. На сваё няшчасце забыўся старанна ачысціць яе са збожжа. Цяпер баіцца, што сам у сябе жыта звядзе. Затое ў суседа жыта незвычайна ўродзіць.

30-гадовая жыхарка Беластока Алька В. за прычыну школьных няўдач свайго сына лічыць тое, што калі яе сын першы раз ішоў у школу, то не з'еў „свяшчонай на Сплініэ” макаўкі. Такая макаўка дала б хлопцу „поўную голаў”. Зараз жа хлапчук паўтарае другі клас, брыдка лаецца і б'е ўсіх малодшых дзетак. Алька В. упэўнена, што калі б яе маці-сялянка не пабаялася сеяць мак, напэўна яе сын быў бы прыкладным вучнем, сябрам і сынам. Цяпер ездзіць па ўсіх практыкуючых магах і просіць іх „зрабіць так, каб дзіця пачало добра вучыцца”.

Цікавы прыклад магічнай практыкі расказала мне маці маёй сяброўкі. Датычыць ён найважнейшай для сялян справы — гаспадаркі.

**Як звесці свіней у суседа?**

У цёткі Соні „шыковалі” свінні. Аднаго году было іх як заўсёды аж трынаццаць. Мікола Г., добры сусед, прыйшоў купіць свіней. Цётка Соня якраз была „радзеляй”. Давяраючы суседу, дазволіла яна Міколу Г. самому пайсці ў хлеў і выбраць жаданых парсюкі. Той так і зрабіў. Злавіў у мяшок дзве свінкі і вепручка.

— Од тоі поры то ў мэнэ свіні пэрэсталі шыковаті. Дэсеть ліет не было, — расказвала цётка Соня.

Але каб запанавала справядлівасць, цётка безупынна малілася. І нагода адплаты надышла. Пасля 10-ці гадоў цётка Соня і Мікола Г. разам паехалі на базар і

☞ *Працяг на стар. 10*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Прэзідэнтам Беларусі павінен стаць сумленны чалавек.*
*(Пагоня, н-р 15)*

Так, гэта разумная прапанова.

* * *

*Stale molestowany i upokarzany przez dziennikarzy rząd polski opuścił stolicę i uszedł w las, gdzie opracował plan trzyletni.*
*(Nie, nr 20)*

Як вучыць маці-гісторыя, наступны павінен быць план шасцігадовы.

* * *

*Polska polityka zmienia się w festiwal pozerstwa i kabotyńskich gestów. Proces ten ma charakter narastający i już chyba niedługo osiągnie dno absurdu.*
*(Kurier Poranny, nr 96)*

* * *

*W Białymstoku kilka budynków po przedszkolach miasto życzliwie podarowało różnym zgromadzeniom zakonnym i parafiom. Zgromadzenie misjonarek Sióstr Świętej Rodziny oczekuje od władz miasta miliarda złotych na „realizację społecznych zamiarów". Pan prezydent miasta współtworzy prawicowo-chrześcijańską koalicję „Jedność" do wyborów samorządowych.*
*(Trybuna, nr 116)*

Можна сказаць, што Беласток — гэта хрысціянскі горад. Неўзабаве большасць будынкаў, таксама як і ўлады горада, будуць служыць высакароднай справе.

* * *

*Szokująco wyglądaja w Polsce tabuny ochroniarzy wokół państwowych urzędników. W Danii ministrowie bez żadnej ochrony robią zakupy w sklepach z żonami, do pracy jeżdżą najczęściej nieopancerzonymi rowerami, biegają po alejkach w centrum miasta.*
*(Polityka, nr 19)*

Ненармальныя гэтыя дацкія міністры. У нашых сялян, шпацыруючых па Маршалкоўскай ці Ліповай, не мелі б яны ніякай пашаны, а нейкі чырвонаносы юнак мог бы яшчэ забраць ім веласіпед.

* * *

*Dziennikarze są przykrym narodem i dla rządzacych lepiej byłoby, gdyby w przyrodzie nie występowali. Przed 1989 r. zdarzało się, że dziennikarze układali pytania, ale dopiero po uzyskaniu odpowiedzi odpowiedniego ministra. Wyjątkiem był Jerzy Urban, który odpowiadał po zadaniu pytania... Dzisiejsza koalicja stosuje cały system unik\u00f3w i nazywa to polityką informacyjną. Pawlak stosuje technikę rozbieganych oczu, tak żeby rozmówca nie wiedział, czy premier go zauważył, czy nie. Czasem mówi, ale zupełnie co innego, niż go pytają dziennikarze.*
*(Gazeta Współczesna, nr 91)*

Цяпер таксама журналісты маглі б пісаць пытанні, калі б ведалі адказы. І тады ўсё было б зразумелае чытачам і палітыкам. Гіне традыцыя нармальнай журналісцкай прафесійнасці...

* * *

*Oskarżony o wandalizm amerykański nastolatek zostanie wychłostany — postanowił sąd w Singapurze. Wywołało to falę protestów w zachodnich mediach i interwencję prezydenta Billa Clintona. Nikt do tej pory nie ujął się za jednym z kilku tysięcy chłostanych co roku Singapurczyków.*
*(Rzeczpospolita, nr 115)*

Мы, як азіяты, у гэтай справе трымаем бок сінгапурскага суда. Рашуча аднак пратэстуем супраць цялесных пакаранняў нашых жоўтых братоў.

* * *

*Wicemer miasta Lipiecka najzupełniej serio oświadczył, że stolicę Rosji trzeba przenieść do Jarosławia, a Moskwę zostawić mafii i skorumpowanym urzędnikom, aby się nawzajem powykańczali. Na pewno Rosji to nie zaszkodzi.*
*(Polityka, nr 17)*

Толькі спадары Ільіч і Эдмундавіч ведалі б, як навесці парадак у гэтым горадзе.

* * *

*Лех Валэнса наведаў у Варшаве рэдакцыю маладзёжнай газэты (Sztandar Młodych — рэд.). Прыехаў ён на чорным мерсэдэсе апанцыраваным тытанавымі бляхамі. Вокны залі, дзе адбывалася сустрэча з увагі на снайпэраў былі шчыльна завешаныя. Пўі Валэнса толькі прывезеную з сабою гарбату і французскую мінеральную ваду. Журналісты атрымалі выдатную магчымасьць для кпінаў.*
*(Свабода, н-р 17)*

Дзякуючы гаспадзіну Кебічу, журналісты „Свабоды" таксама не нудзяцца. Можна толькі паспачуваць калегам з Даніі ці Швецыі, дзе прэзідэнты і прэм'еры ездзяць па вуліцах на веласіпедах. Пісаць пра такога палітыка гэта таксама як пісаць пра свайго суседа ці швагра. Кебіч, Паўляк, Валэнса, Грыб — гэта палітыкі. З крыві і косці, як кажуць палякі.

* * *

*Przy okazji rocznicy bitwy pod Monte Cassino wielu próbowało upiec własną pieczeń. Rząd i prezydent próbowali wykazać obiektywny stosunek do własnej historii. Opozycja usiłowała przekonać społeczeństwo o prywacie i bezduszności obecnej władzy. Większość mediów korzysta z okazji, aby zaprezentować swój patriotyzm i niezależność. Za wszystkim stoją jednak pieniądze. Jest to najlepszy znak, że żyjemy w kapitalizmie. Że można pięknie połączyć wartości moralne, obowiązek patriotyczny i szacunek do historii z biznesem.*
*(Trybuna, nr 116)*

* * *

*Ваша кіска купіла б „Віскас". А вы пакаштуйце „Пэдзігры-паль".*
*(Пагоня, н-р 15)*

Кансерва „Пэдзігры-паль" мае ў сваім складзе не толькі ўсе вітаміны і мінеральныя солі, але таксама выдатна ўплывае на псіхіку спажыўцоў — дадае ім адвагі і рашучасці, узмацняе сілу голасу, а некаторым вырастаюць нават новыя зубы. Смачна есці!

## З мінулага тыдня

Мэтай новай праграмы, якая называецца **„Стратэгія для Польшчы"**, з'яўляецца падтрымка прагрэсіўных тэндэнцый у гаспадарцы, — сказаў віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў **Гжэгаж Калодка**. Галоўныя дзве прадпасылкі праграмы — гэта павелічэнне экспартнай вытворчасці і тых інвестыцый, якія створаць новыя месцы працы. Праграма прадугледжвае таксама павелічэнне выдаткаў на навуку, культуру, адукацыю і ахову здароўя. Віцэпрэм'ер падкрэсліў, што праграма змяшчае ў сабе прынцыпы эканоміі і супадае са спадзяваннямі розных слаёў грамадства.

**Кожны паляк**, які жыве за мяжой, павінен атрымаць польскае грамадзянства і права на пасяленне ў Польшчы, — так мяркуюць 4/5 рэспандэнтаў сацыялагічнай службы CBOS. Кожны дзевяты рэспандэнт супрацьстаўляецца гэтаму. Рэпатрыяцыю палякаў з Казахстана адабраюць 3/4 апытаных.

**70 маладых палякаў з Казахстана** пачне ў кастрычніку навуку у вышэйшых навучальных установах (на 10 больш, чым у мінулым годзе). Польская дзяржава гарантуе ім бясплатныя навуку, жыллё і харчаванне ды 2 млн. зл. стыпендыі. У мінулым годзе з тэрыторыі былога СССР на такіх жа льготных умовах, якія прыслугоўваюць асобам польскага паходжання, вучыліся 300 студэнтаў. Большасць з іх намерваюцца застацца ў Польшчы.

**Апошняя (68-ая) сесія Гарадской рады ў Беластоку** прыняла справаздачу з дзейнасці самаўрадавых органаў у 1990—1994 гадах. Па прапанове раднага **Яна Хайноўскага** Рада ўхваліла заклік да дзяржаўных улад забяспечыць палякам з Казахстана годнае вяртанне на радзіму. Беластоцкі самаўрад паабяцаў аказаць дапамогу ў гэтым. Відаць, радныя мелі на ўвазе пустуючую „Усходнюю сцяну".

**Ваяводская рада прафсаюза сялян „Салідарнасць" у Беластоку** намервавецца запрасіць на Беласточчыну 40—50 палякаў з Казахстана. „Звяртаемся з заклікам да членаў Прафсаюза і ўсіх людзей добрай волі аказаць дапамогу. Палякі, якія жадаюць вярнуцца з прымусовай ссылкі, не толькі з Казахстана, няхай сустрэнуць на Радзіме расчыненыя дзверы", — пішуць прафсаюзныя дзеячы. Запрошаным на тры месяцы мужчынам будзе створана магчымасць пазнаёміцца з умовамі гаспадарання сялян, з польскай мовай і культурай.

**XV Агульнапольскае паломніцтва праваслаўнай моладзі** на Святую Гару Грабарку згуртавала амаль 1,5 тысячы маладых вернікаў з усёй Польшчы, а таксама прадстаўнікоў праваслаўных маладзёжных арганізацый з **Беларусі**, Чэхіі, Грэцыі, Літвы, Партугаліі, Расеі, Румыніі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і ЗША.

**МОТО'94** — так называўся Міжнародны матарызацыйны кірмаш, які адбыўся ў Беластоку. Удзел у ім прынялі 50 фірм з усёй Польшчы. Мэта кірмашу — рэклама вырабаў польскіх і замежных фірм, які дзейнічаюць у Польшчы, на рынках **Беларусі**, Украіны, Літвы і Латвіі. У ходзе кірмашу былі праведзены канкрэтныя перамовы з беларускай дэлегацыяй, якую ўзначальваў прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў **Уладзімір Карагін**. Беларускі бок цікавілі, між іншым, запчасткі для аўтобусаў „Ікарус" і пашырэнне супрацоўніцтва з фірмай „Пронар" з Нарвы.

**Часопіс** — інфармацыйна-культурны месячнік Усходняй Беласточчыны атрымаў узнагароду II ступені ў III Конкурсе для мясцовага друку, арганізаваным Інстытутам на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе. Сёлета ўдзел у конкурсе прынялі 300 газет, а адным з крытэрыяў ацэнкі было іх стаўленне да пытанняў меншасці. Конкурсная камісія вылучыла агулам 76 лаўрэатаў.

**Управа горада Беластока** на сваім пасяджэнні асудзіла выказванне пасла СЛД **Станіслава Малішэўскага** ў Сейме, у якім абвінаваціў ён самаўрадавыя ўлады горада ў негаспадарлівасці. У лісце, накіраваным Маршалку Сейма, прэзідэнт горада патрабуе высветліць прычыны распаўсюджвання няпраўды і давесці да абвяржэння выступлення пасля С. Малішэўскага.

Шэфам Раённай пракуратуры ў Беластоку стаў **Базылі Тэлентаюк**, які да гэтай пары ўзначальваў Раённую пракуратуру ў Гайнаўцы.

**Беларуская маладзёжная** — папулярная перадача першай праграмы Беларускага радыё — з 28 мая г.г. перастала выходзіць у эфір. Афіцыйная прычына — рэфармаванне структуры менскага радыёвяшчання. Супрацоўнікам рэдакцыі „Беларускай маладзёжнай" кіраўніцтва Радыёкамітэта паставіла ўмову: або будуць яны займацца выключна маладзёжнымі справамі, а не палітыкай, або іх расфарміруюць ці звольняць з працы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Шэсць кандыдатаў

Цэнтральная выбарная камісія зарэгістравала шэсць кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. За кандыдатуру старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча выказаліся 371 967 выбаршчыкаў. Лідэра БНФ Зянона Пазьняка падтрымала 216 855 чалавек, а сакратара Партыі камуністаў Беларусі Васіля Новікава — 183 834 выбаршчыкі. Паспяхова пераадолелі статысячны рубеж Аляксандр Лукашэнка, Станіслаў Шушкевіч і Аляксандр Дубко. Сёмы прэтэндэнт, Генадзь Карпенка, зняў сваю кандыдатуру пасля таго, як народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета, што раней паставілі свае подпісы за яго вылучэнне, сталі падаваць у Цэнтральную камісію заявы аб адкліканні сваіх подпісаў у яго падтрымку.

### Рэйтынг прэтэндэнтаў

Вячаслаў Кебіч лідзіруе ў спіску прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Паводле даных апытання, праведзенага сацыялагічнай службай „Грамадская думка", найвялікшай падтрымкай насельніцтва карыстаецца Вячаслаў Кебіч — 28,2%. Далей ідуць: Аляксандр Лукашэнка — 25,7%, Зянон Пазьняк — 13,9%, Станіслаў Шушкевіч — 10,8%, Генадзь Карпенка — 10,2% (апытанне праводзілася яшчэ да рэгістрацыі кандыдатаў), Васіль Новікаў — 8,1% і Аляксандр Дубко — 2,1%.

### Спікер абвяргае

Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН абверг заяву народнага дэпутата Аляксандра Лукашэнкі, у якой утрымліваліся абвінавачванні ў яго кантактах з прадстаўнікамі мафіёзных структур. М. Грыб падкрэсліў, што не можа быць ніякіх дакументаў, якія пацвярджаюць такія кантакты, паколькі не было саміх кантактаў.

### Я выйграю

— такую ўпэўненасць наконт вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі выказаў Станіслаў Шушкевіч у інтэрв'ю для „Литературной газеты". — Я ведаю, што трэба рабіць. Сённяшні ўрад умее панаваць, а не кіраваць. Няздольнасць кіраваць трэба спісваць. Адсюль жаданне з'яднацца з Расеяй таму, што ў гэтым выпадку ва ўсіх нашых бедах можна будзе абвінаваціць Маскву.

### Нежаданы госць

У Беларусь з трохдзённым візітам прыязджаў вядомы амерыканскі мецэнат Джордж Сорас. У час знаходжання ў рэспубліцы ў яго адбыліся сустрэчы ў пасольстве ЗША з афіцыйнымі прадстаўнікамі ЮНЕСКО, Міжнароднага валютнага фонду, Еўрапейскага інвестыцыйнага банка ды з асобамі, якія маюць адносіны да Фонду Сораса — Беларусь. У беларускім урадзе амерыканскаму мільянеру ні з кім сустрэцца не ўдалося. Адмовіў яму ў сустрэчы і Вячаслаў Кебіч. На прэс-канферэнцыі Джордж Сорас адзначыў, што ён задаволены дзейнасцю Фонду Сораса — Беларусь. Разам з тым ён выказаў заклапочанасць і шкадаванне з-за негатыўных адносін да Фонду з боку органаў улады. Аб'ём і маштабы дзейнасці ў Беларусі будуць зменшаны ў сувязі з тым, што ўрад Беларусі не ідзе на супрацоўніцтва. У мінулым годзе і ў I квартале г.г. расходы на навуковыя праграмы ў Беларусі склалі 1730 тысяч долараў. Дж. Сорас негатыўна ацаніў ход эканамічных рэформ у рэспубліцы.

### Шэляговіч хоча адзінства

Адзін з няўдачнікаў цяперашняй прэзідэнцкай гонкі літаратар Мікола Шэляговіч заявіў у Пінску аб стварэнні сваёй палітычнай партыі. Ён яе бачыць арганізацыйна падобнай на Партыю расейскага адзінства і згоды. Натуральна, што і назва партыі-блізняці адпаведная — Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды. У якасці галоўнай праграмнай мэты лідэр выстаўляе адстойванне рэгіянальных інтарэсаў і сацыяльную абарону жыхароў у правінцыі.

### Храм па ініцыятыве Ельцына

Кіраўнікі ўрадаў Расеі і Беларусі аднадушна адзначылі, што дзень вызвалення Беларусі — 3 ліпеня — гэта знамянальная дата для ўсіх брацкіх народаў, якія змагаліся з фашызмам. Вячаслаў Кебіч і Віктар Чарнамырдзін падтрымалі ініцыятыву прэзідэнта Расеі Барыса Ельцына закласці ў гэты дзень на граніцы Расеі, Беларусі і Украіны і ўзнесці праваслаўны храм у імя светлай памяці абаронцаў Айчыны, усіх тых, хто загінуў у агні Вялікай Айчыннай вайны.

### Школа жонак

Прагучаў апошні званок для выпускніц адзінай у Беларусі жаночай гімназіі. Першы выпуск, праўда, невялікі; гэта ўсяго 30 дзяўчат, але ўсе яны гатовы выканаць любую ролю, прызначаную ў грамадстве. Акрамя сярэдняй адукацыі, яны прайшлі курсы машынапісу, дамаводства, кройкі і шыцця, вязання кручком і на спіцах, разнастайных відаў вышывак, этыкету і лячэння. Яны ўмеюць выдатна рухацца, танцаваць і падтрымліваць любую гутарку. За два гады існавання гімназія стала вядомай не толькі ў Беларусі, але і ўключана ў рэестр ЮНЕСКО.

### Настаўнік-забойца

У Гомелі быў знойдзены труп першакласніцы, якая знікла ў пачатку мая. Дзяўчынку прама са школы павёз на веласіпедзе ў лес настаўнік малявання і чарчэння. Тут ён яе задушыў і закапаў у загадзя падрыхтаваную магілу. Псіхічны стан педагога зараз даследуюць спецыялісты, хаця ў школе яму далі бліскучую характарыстыку.

# ВЫБАРЧАЯ ПАНАРАМА

*Працяг са стар. 1*

## Беларусы блокам — канкурэнты ўроссып

У Гайнаўцы перад выбарамі завязалася Грамадска-дэмакратычная выбарчая кааліцыя. Стварылі яе два выбарчыя камітэты: левых палітычных сіл (грамадска-дэмакратычны) і беларускі. Спачатку ўзнік гэты першы, у састаў якога ўвайшлі: сацыял-дэмакраты, Унія працы, Польская сялянская партыя, Саюз польскіх настаўнікаў, розныя прафсаюзы, пенсіянеры, ветэраны ды нават нейкая арганізацыя ўласнікаў дачаў. Калі рэактываваўся Беларускі выбарчы камітэт (той самы, што існаваў 4 гады таму), запрапанавалі яму ролю чатырнаццатага кааліцыянта.

*— Мы на такое згадзіцца не маглі,* — кажа сябра БВК **Міхал Голуб**, — *бо ў цяперашняй радзе ў нас было 8 чалавек, да таго мы дапамаглі ўвайсці ў раду двум „людоўцам", двум сацыял-дэмакратам і аднаму незалежнаму кандыдату. Гэта мы былі галоўнай апазіцыйнай сілай, таму і цяпер кааліцыю стварылі на роўных правах з цэлым Грамадска-дэмакратычным выбарчым камітэтам, а не як яго частка.*

*Кіраўнічым органам кааліцыі з'яўляецца Кааліцыйная рада, у якую ўвайшлі па 6 чалавек ад нас і ад іх. Супольна пішам выбарчую праграму, разам жа жывем, працуем, вучымся, гуляем. У праграмнай камісіі не толькі кандыдаты на радных, але шырэй — людзі, якія могуць нешта сказаць пра наш горад, якія могуць унесці канструктыўныя прапановы. Галоўнымі персонамі ў праграмнай камісіі лічацца Ядвіга Рудзінска-Патэюк і адказны за гаспадарчыя справы Анатоль Агрыцюк.*

У рамках Беларускага выбарчага камітэта аб'ядналіся: Праваслаўнае брацтва, Гайнаўскі аддзел БГКТ і незалежныя. БВК выставіў 12 кандыдатаў. Гэта:

**Анатоль Агрыцюк** — эканамічны дырэктар прадпрыемства „Hamech",

**Якуб Астапчук** — трэнер дзюдо ў спартыўным клубе „Пушча",

**Сяргей Аўксянцюк** — кіраўнік транспарту ў прадпрыемстве „Лес",

**Міхал Байко** — інжынер-канструктар, дзеяч Брацтва,

**Мікалай Бушко** — дырэктар Гайнаўскага дома культуры, арганізатар Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі,

**Канстанцін Бяляўскі** — юрыст, юрысконсульт у многіх фірмах,

**Васіль Дамброўскі** — настаўнік нямецкай мовы ў беластоцкім коледжы, былы дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя,

**Міхал Врублеўскі** — войт гміны Чаромха,

**Васіль Іванюк** — настаўнік ПО (абаронная падрыхтоўка) у гайнаўскіх сярэдніх школах,

**Анатоль Лапінскі** — інжынер Прадпрыемства камунальнай гаспадаркі.

**Сяргей Сац** — тэхнік (цяпер беспрацоўны),

**Яўген Сачко** — дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя.

Канкурэнтам для Грамадска-дэмакратычнай кааліцыі мела быць Сканфедэраваная грамадзянская кааліцыя (КПН, грамадзянскія камітэты, гарцэры, мясцовая камісія „Салідарнасці"). Кааліцыя гэтая аднак разляцелася, пад сваёй шыльдай ідзе КПН, а астатнія кандыдаты — як незалежныя.

**М. В.**

## Глядзець шырэй

**Пётр Багроўскі** — лідэр беларускага студэнцкага руху ў 80-ыя гады. Цяпер сябра Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Жыве ў роднай вёсцы Рутка, каля Дубіч-Царкоўных. Балатуецца ў тамтэйшую гмінную раду.

*— Чым, на вашу думку, павінен перш за ўсё займацца радны?*

— У нас людзі лічаць, што радны павінен дбаць толькі пра інтарэсы тых, якія за яго галасавалі. І бывае такі кур'ёз, што за чалавека прагаласуе 10 асоб, становіцца ён радным і потым пра нішто не хоча ведаць, адно думае, як адудзячыць сваім выбаршчыкам. Памойму, у народных, усё ж такі, выбраннікаў павінен быць шырэйшы погляд на справы. Яны мусяць займацца ўсёй гмінай. А нават шырэй, не забываць пра інтарэс рэгіёна, якога часткай з'яўляецца канкрэтная гміна.

Сёння гмінныя рады займаюцца дзяльбой беднага бюджэту замест думаць, як яго ўзбагаціць. Вядома, што адной малой гміне, як хаця б нашы Дубічы, гэта не пад сілу, але ўжо згуртаваным лягчэй дабіцца лепшых рэзультатаў. Добрай ідэяй быў Саюз гмін Усходняй Беласточчыны. Былі ж падпісаны пагадненні, толькі ніхто іх не ажыццяўляў.

*— Думаеце, варта было б да гэтага вярнуцца?*

— Абсалютна так. Як і да яшчэ адной справы, пра якую шмат гаварылася чатыры гады назад. А, менавіта, да паляпшэння абмену памежных гмінаў з суседняй Беларуссю. У цэлым свеце мяжа, гэта крыніца даходу, толькі ў нас не. Прывяду канкрэтны прыклад. У гміне дрэнныя дарогі. Рада не мае грошай на іх рамонт (кошт пракладкі кіламетра асфальту ідзе ў сотні мільёнаў), а ці хтонебудзь пацікавіўся, за якія грошы можа зрабіць гэта дарожная брыгада з Беларусі?

І яшчэ адно. Са свае практыкі ведаю, што нам — беларусам Беласточчыны — шмат у чым мог бы дапамагчы ўрад Рэспублікі Беларусь, толькі на сённяшні дзень не мае каму. Гэта мы самі павінны ведаць, чаго хочам, выпрацоўваць формы, ствараць рэальныя структуры, глядзець далей за сваю пустую кішэню.

**Пытаў МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## Незалежныя і непалітычныя

Чатыры гады таму самаўрадавыя выбары ў Белавежы выразна выйграў Беларускі выбарчы камітэт.

*— Сёлета ў нас няма ніякіх камітэтаў,* — кажа сакратар Гміннай управы Васіль Семянюк, — *гэта была б спроба штучна палітызаваць выбары. Я лічу, што няма такой патрэбы. Сёння, у варунках дэмакратыі, кожны можа стаць кандыдатам у гмінную раду і ягоная справа, што ён будзе выбаршчыкам абяцаць. У нас і так вядома хто ёсць хто.*

У гміне Белавежа 15 радных, 13 — з Белавежы разам з Грудкамі і Падалянамі і 2 — з пушчанскіх вёсак. Адным з кандыдатаў з'яўляецца цяперашняя войт Анна Байко.

*— У нас большасць кандыдатаў — незалежныя,* — кажа яна. — *Толькі сем асоб выступілі да выбараў пад шыльдай левых дэмакратаў. Я — незалежная.*

На пытанне, ці ў папярэдніх выбарах пані войт ішла з беларускага спіска, яна запярэчыла:

*— Не, я тады была незалежная.*

**ак**




### „ХТО ЛОВІЦЬ РЫБУ..?"

У „Ніве" н-р 21 ад 22 мая 1994 г. быў надрукаваны артыкул Ганны Кандрацюк „Хто ловіць рыбу ў мутнай вадзе?", у якім аўтарка прыводзіць словы пачутыя ёю ў будынку школы ў Орлі, што нейкі Янка Д. заявіў: *„Ніва" непатрэбная; бо ў ёй няма чаго чытаць.* Думаю, што ўсім вядома, што пад ініцыялам Янка Д. скрываецца тут ніжэйпадпісаны. У сувязі з тым, што я пры кожнай нагодзе заахвочваю дзяцей карыстацца нашым тыднёвікам і сам часта яго прымяняю ў якасці дапаможніка на ўроках беларускай мовы, працытаваныя словы вельмі мяне здзівілі. Яшчэ больш здзівілі яны маіх вучняў, якія найлепш ведаюць нашую рэчаіснасць і кожную няпраўду ўспрымаюць балюча, інакш чым дарослыя. Таму вельмі прашу спадарыню Ганну Кандрацюк паінфармаваць мяне і чытачоў „Нівы", хто аўтар гэтай інфармацыі. Пішу гэта не таму, каб камусьці надакучыць, але таму, што трэба пакончыць з усялякай міфаманіяй у нашым асяроддзі і кожную няпраўду пачаць трактаваць як шкодную з'яву ў жыцці грамадства, а асабліва калі ўсё гэта адбываецца ў прысутнасці маладога пакалення.

**ЯНКА ДОБАШ**

**Ад аўтаркі:**

**Шаноўны спадар Янка Добаш!**

Пра інфармацыю, што „Ніва" непатрэбная, бо ў ёй няма чаго чытаць" трэба думаць, як аб чарговым міфе. На жаль, даводзіцца мне яго пастаянна слухаць ад некаторых беларусаў. Паўтараюць яго тыя, хто „Ніву" не чытае. „Хто аўтар гэтай дэзінфармацыі"? Гэта вынікае з кантэксту артыкула „Хто ловіць рыбу...". Я таксама думаю, што ўсялякія паганыя міфы распаўсюджваюцца ў нашым асяроддзі дзеля шкоднай дзейнасці. А з міфамі, сапраўды, няма сэнсу змагацца.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# АДЗІН САДОМ і ГАМОРА!

Прыпамінаецца мне, што калісь чыгуначныя ўлады, рыхтуючы новы расклад цягнікоў, неяк прыслухоўваліся да прапаноў нізоў. Напрыклад, у 1980 г. Цэнтральная дырэкцыя ПКП (ЦДОКП) з Варшавы наладзіла ў Гайнаўцы сустрэчу з начальнікамі станцый, начальнікамі гмін і прадстаўнікамі прадпрыемстваў Гайнаўшчыны, каб абмеркаваць праект раскладу і ўлічыць патрэбы школьнікаў і рабочых (аб гэтым пісаў я ў дописе „З думкай аб рабочых" у 41 (1285) н-ры „Нівы" ад 12.10.1980 г.). Не буду ў дэталях напамінаць, як гэта адбывалася, але адно хачу сказаць: у васьмідзесятых гадах чыгуначная вярхушка інакш ставілася да патрэб грамадства.

На жаль, сённяшнія адносіны ўлад ПКП да пасажыраў характарызуюцца поўнай абыякавасцю. Хопіць паглядзець на новы расклад, які абавязвае з 29 мая г.г. Адзін садом і гамора! Ці ж гэта магчыма, каб у цяперашнім цывілізаваным свеце вучань прыязджаў у школу на паўтары гадзіны да заняткаў! Ці адказныя за справу раскладаў працаўнікі варшаўскай ЦДОКП падумалі аб школьніках?! Напэўна не, бо ж іхнія дзеці на цягніках не дабіраюцца ў школу.

Гэтае, аднак, не адзіны прыклад недасканаласці новага раскладу цягнікоў. Вось што на гэтую тэму гаворыць начальнік чыгуначнай станцыі ў Чаромсе **Яраслаў Кавальчук:**

— Не раз мы выступалі да кампетэнтных улад з канкрэтнымі прапановамі наконт новага раскладу. Доказам гэтаму могуць быць пісьмы войта Чаромхаўскай гміны, пратакол з сустрэчы начальнікаў навакольных станцый, пастулаты мясцовых чыгуначнікаў. Аднак гэтыя намаганні аказаліся безвыніковымі. Ці так павінна быць, каб людзі, якія жывуць ля чыгуначнай лініі Седльцы — Чаромха — Беласток не маглі даехаць у Беласток між поўначчу а восьмай гадзінай раніцы? Каб пасажыр з Дабрывады ці Вітава, які прыедзе ў Чаромху а гадзіне 5.18, чакаў на цягнік у Беласток аж да 8.10?

Разглядаючы прадстаўленыя мне дакументы, раблю выснову, што варшаўскай ЦДОКП не залежыць на кольках пасажыраў і на прыбытку з білетаў, бо інакш тады склалі б новы расклад цягнікоў. Апошнім часам варшаўская дырэкцыя не клапоціцца пра жыхароў усходняй Беласточчыны. Аб гэтым сведчыць хаця б факт закрыцця чыгуначнага шляху Ляўкі — Гайнаўка — Белавежа, ліквідацыя некаторых цягнікоў у суботы і нядзелі на нашай тэрыторыі.

Я, як чыгуначнік і звычайны грамадзянін, бачу многа балагану і неадноічы імкнуўся нешта змяніць на лепшае, але не знаходжу падтрымкі ў сваіх начальнікаў. Чаму гэта так усё ідзе, дагэтуль не магу зразумець.

А можа, аднак, адказныя за дзяржаўную чыгунку чыноўнікі варшаўскай ЦДОКП больш прыхільна глянуць у наш бок і станоўча адгукнуцца на пастулаты жыхароў Чаромхаўскай гміны ды адкажуць на пісьмы наконт новага раскладу цягнікоў.

**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**

# ПРЫРОДА НЕ АБАРОНІЦЦА САМА

Галоўную пагрозу для прыроды ствараюць хімічныя прамысловыя забруджанні, асабліва двухвокісам серы, вокісам азоту, двухвокісам вугляроду і спалучэннямі фтору. Другі вораг прыроды — людзі, якія руйнуюць яе шляхам забудовы, турызму, матарызацыі і г.д.

У Польшчы нацыянальныя паркі налічваюць 177,8 тыс. гектараў, што складае 0,6% тэрыторыі краіны. Існуе 17 нацыянальных паркаў, 4 чакаюць на зацвярджэнне. Маем таксама 214 запаведнікаў аховы краявіду, сумесная плошча якіх налічвае 4,5 млн. гектараў, г.зн. 14,6% тэрыторыі Польшчы. Да 1992 года было заснавана 79 ландшафтных паркаў плошчаю ў 1,5 млн. гектараў, што складае 8,5% абшару краіны. Апрача гэтага існуе 1 037 рэзерватаў прыроды, якія займаюць плошчу ў 122 тысячы гектараў; на зацвярджэнне чакае яшчэ 80 такіх запаведнікаў.

Прамысловыя забруджанні найбольш пагражаюць прыродзе на поўдні краіны; турызм пагражае кожнаму з абшараў аховы прыроды. Найбольш атракцыйныя мясціны наведвае найбольш турыстаў, прычыняючы найбольшыя шкоды. На працягу года прыродныя запаведнікі наведвае ў нашай краіне звыш 10 мільёнаў людзей, у якіх найчасцей нізкі ўзровень турыстычнай культуры.

Турызм з'яўляецца таксама крыніцай даходаў. Дзеля рацыяналізацыі турызму, у многіх гмінах праводзіцца інвентарызацыя помнікаў прыроды. Дзякуючы гэтаму, многія славутасці занесены ў турыстычныя даведнікі. У гміне Бельск-Падляшскі вялікую працу пры апісанні цікавых мясцін выканаў інж. Барыслаў Рудкоўскі. Успомніць тут варта пра „Грабіну" ў Відаве ці ўзгоркі ў Гацьках і каля Катлоў; дарэчы, амаль кожны закутак Бельскай гміны мае унікальную прыродную ці ландшафтную вартасць.

Мясцовыя самаўрады павінны задбаць пра захаванне і ўласцівае выкарыстанне прыродных аб'ектаў. Паўплываць на гэта можам і мы, выбіраючы ў самаўрады адпаведных людзей. Трэба галасаваць на людзей звязаных з роднай зямелькай і яе прыродай: толькі на беларускі камітэт, а не на беларускія прозвішчы з іншых груповак.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# СЕЛЕКТЫЎНАЯ ПАМЯЦЬ (да „Дзённікаў" Сакрата Яновіча)

Папера можы вытрымаць усё — гэта факт. Аднак чалавек, што запісвае яе словамі, у якіх не хапае месца аб'ектывізму, павінен хаця задумацца, ці агеньчыя суб'ектыўныя выказванні і ацэнкі не становяцца звычайнай хлуснёй.

У такім напрамку часта ідуць аўтары дзённікаў і мемуараў. У іх заўсёды знойдуцца ўважлівыя чытачы, прагныя дакрануцца да закулісся вялікай палітыкі ці эратычных скандалаў герояў. А найлепш — да аднаго і другога разам. Класічным прыкладам такой літаратуры ў Польшчы сталася кніжка Анастасіі П. „Эратычныя імунітэты", напісаная дзеля канкрэтных палітычных мэтаў. Дарэчы, у III Рэчыпаспалітай мемуарыстыка дачакалася неблагіх вынікаў. Амаль уся палітычная і культурная эліта ўвекавечылася ў кніжках, выступаючы там у ролі беззаганных рыцараў (а пры нагодзе беручы немалыя ганарары).

У беларускім бездарожжы Беласточчыны смелым крокам у бок мемуарыстыкі пусціліся Георгі Валкавыцкі ў кніжцы „Віры" і Сакрат Яновіч — аўтар публікаваных на старонках „Нівы" дзённікаў. На мой асабісты погляд, Сакрат Яновіч рашыўся на сваю чарговую гульню з гісторыяй, гэтым разам у ролі грамадска-палітычнага летапісца свайго часу. Тым самым хоча „дапамагчы" прафесійным даследчыкам навейшай гісторыі беларусаў Беласточчыны.

Я, як гісторык, але і ўдзельнік беларускага жыцця тут у другой палове 80-х гадоў, лічу сваім абавязкам звярнуць увагу аўтара дзённікаў на тыя яго словы і ацэнкі, якія пярэчаць фактам, а пры нагодзе крыўдзяць многіх людзей.

У „Ніве" н-р 16 (ад 17 красавіка г.г.) чытаем наступнае:

*24.XII.1989 г. ... Лёнік (10-га): Не можа быць так, што яны толькі водку п'юць, а я за іх дзейнічаю!*

*Ён меў на ўвазе БАС. Яму здавалася, што калі пакажа маладым, як трэба працаваць на грамадскай ніве, то яны пойдуць яго следам. Не так усё проста, Лёнік! Нічога не варты прыклад, адрасаваны ды тых, хто не даспеў пераняць яго...*

Сакрат Яновіч, мабыць, дзеля ўласнага самазадавальнення, не хоча заўважыць пэўных фактаў, якія не ўпісваюцца ў ягоную гістарычную рэфлексію наконт зусім яшчэ свежага нашага мінулага. Пастараюся вярнуць яму памяць, прыгадаўшы некаторыя праявы дзейнасці беларускага студэнцтва ў тыя гады (алкагольныя і бяздзейныя — паводле С. Яновіча).

Беларускае аб'яднанне студэнтаў, як легальная структура, заіснавала — першы раз ад 1981 года — толькі ў снежні 1988 года. Тады адбыўся ўстаноўчы з'езд арганізацыі, былі вызначаныя напрамкі дзейнасці і выбраны ўлады. У склад кіраўніцтва ўвайшлі людзі, якія навуку ў вышэйшых школах пачалі пераважна ў палове 80-х гадоў. Да таго часу ўсе яны здорава папрацавалі дзеля інтэграцыі беларускага студэнцкага асяроддзя, арганізуючы, між іншым, у сакавіку 1987 года ў Бельску З'езд беларускіх студэнтаў (тады было прынятае рашэнне аб патрэбе адраджэння БАСу). Пастаяннымі формамі студэнцкай актыўнасці з 1980 года былі і надалей ёсць атрасіны першакурснікаў, вандроўкі па Беласточчыне, падчас якіх, апрача адпачынку, вядзецца нацыянальная самаадукацыя. З 1987 года ладзіліся ў Супраслі святкаванні купальскай ночы, на якія кожны раз запрошаны быў і Сакрат Яновіч. З 1990 года БАС ладзіць Купалле па ўсёй беларускамоўнай Беласточчыне (1990 г. — Гарадок, 1991 — Орля, 1992 — Кляшчэлі, 1993 — Дубічы-Царкоўныя).

У 1985 годзе група студэнтаў з Варшавы ўпершыню ў пасляваеннай Польшчы ўшанавала — патаемна — угодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Першае афіцыйнае святкаванне Акту 25 Сакавіка, у 1988 годзе ў Беластоку, наладзілі таксама студэнты. Гэтую дату БАС урачыста ўшаноўвае і цяпер. Беларускай нацыянальнай сімволікай пачалі ў нас карыстацца пасля таго, як масава распрапагандавалі яе студэнты на ўсялякага роду мерапрыемствах. Ці Сакрат Яновіч не хоча гэтага памятаць?

З 1985 года студэнты вялі намаганні аб увядзенні беларускай мовы ў жыццё Царквы. Старанні гэтыя закончыліся поспехам ажно ў 1989 годзе, калі ў царкоўцы Марыі Магдаліны святары па-беларуску сталі чытаць Евангелле і казаць пропаведзі. Як, калі не грамадзянскай адказнасцю назваць тое, што кожную нядзелю з Варшавы ў Беласток прыязджаў дзесятак студэнтаў, каб далучыцца да беластоцкіх сяброў? Царкоўныя іерархі справу паставілі ясна: няма людзей на літургіі — няма беларускай мовы ў царкве.

Нагадваю, што з паловы 80-х гадоў тыя студэнты, якія потым нанава сарганізавалі БАС, у час веснавога паломніцтва праваслаўнай моладзі на Грабарку для мнагатысячнай грамады ладзілі пры вогнішчы выступленні з беларускім мастацкім словам. Далей тое ж самае рабіў і БАС, у супрацоўніцтве з Брацтвам праваслаўнай моладзі. Ці і гэта, паважаны Сакрат Яновіч, Вам не доказ дзейнасці студэнтаў на грамадскай ніве?

Не буду Сакрату Яновічу пералічваць эфекты выдавецкай дзейнасці БАСу, бо ён, як руплівы архіварыус, усе выданні павінен мець. Але ў найбліжэйшы час пабачыць свет кніжка пра беларускае студэнцтва ў 80-х гадах, якая павінна адсвежыць памяць аўтара дзённікаў.

Шмат месца ў дзённіках адводзіцца ўзнікненню беларускага палітычнага руху на Беласточчыне. Хачу прыпомніць, што ў ходзе палітычных падзеяў таго часу немалую ролю адыгралі сябры БАСу. Месцам нараджэння палітычнай думкі быў Беларускі клуб, заснаваны ў лютым 1989 г. Сярод ініцыятараў і сяброў-заснавальнікаў Клуба былі студэнты з Варшавы і Беластока. У выбарчай кампаніі нашых кандыдатаў у Сейм і Сенат у чэрвені 1989 года цяжар прапагандавае акцыі ў значнай ступені ўзяў на сябе БАС. Пра гэта Сакрат Яновіч меў бы права не памятаць, калі б не яго плакаты менавіта днямі і начамі па ўсёй Беласточчыне расклейвалі студэнты. Рабілася гэта за кошт экзаменацыйнай сесіі, на грамадскіх асновах, пераважна на машынах бацькоў. І ў гэты гарачы час БАС ставіцца як прыклад недасленасці да грамадскай дзейнасці? Выпадае хіба толькі канстатаваць — кароткая бывае памяць.

У час самаўрадавых выбараў 1990 года ў Беларускі выбарчы камітэт увайшлі: Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне і Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Басаўцы зноў жа напрацаваліся, тэхнічна забяспечваючы выбарчую акцыю. Крыху раней у арганізацыйны камітэт палітычнай партыі беларусаў Беласточчыны ўвайшлі прадстаўнікі студэнцкай арганізацыі. Ездзілі яны таксама на сустрэчы па вёсках і мястэчках.

Прашу Сакрата Яновіча звярнуць увагу на факт, што людзі, звязаныя з БАСам у 1988—92 гадах, з'яўляюцца сёння журналістамі „Нівы" ды беларускіх секцый Польскага радыё ў Беластоку і Варшаве. Урэшце, з красавіка 1990 года выдаецца, зноў жа асобамі, якія адыгралі далёка не апошнюю ролю ў БАСаўскай гісторыі, месячнік „Часопіс". Дарэчы, выданне двух яго першых нумароў было магчымым дзякуючы фінансавай падтрымцы БАСу.

Самі можаце пачуць і прачытаць, ці карыстаюцца яны „трасянкай" — што закідаеце ў сваіх дзённіках — ці жывой культурнай беларускай мовай. Хіба, што прынялі Вы тактыку майго святой памяці дзеда, які вобразна расказваючы на вуліцы пра сваё жыццё выбіраў з яго здарэнні яму выгадныя. Але быў ён чалавек непісьменны і дзённікаў пасля сябе не пакінуў.

На заканчэнне яшчэ адзін фрагмент дзённікаў, запісаны пад датай 29.XII.1989 г.: ... *Хлопцы часам злуюцца на мяне. Кажу ім, я адзін змог бы ўсё парабіць за вас, але гэта не выйсце на перспектыву.*

Ну што ж, кожны мае права верыць, што ён роўны прынамсі Махатму Гандзі.

**ЯЎГЕН ВАПА**
**Старшыня БАСу**
**І-ай і ІІ-ой кадэнцыі**
**(у гадах 1988—1990)**

P.S. Словы Лёніка (калі яны ў сапраўднасці ягоныя), змешчаныя ў дзённіку пад датай 24.XII.1989 г. (ідзе пра Тарасэвіча, з якім перакулілі мы не адну чарку), лічу прыкладам так характэрнай беларусам вуснай народнай творчасці. На гэты раз дзесьці з ваколіц Гарадка і Крынак.

*Выбарчая панарама*

# НАША МЭТА — УЛАДА Ў БЕЛЬСКУ!

**— заяўляюць кандыдаты Беларускага выбарчага камітэта.**

*— Чатыры гады таму Беларускі выбарчы камітэт увёў восем сваіх прадстаўнікоў у гарадскую раду. Сёлета вельмі праўдападобна, што выстаўляючы толькі 10 кандыдатаў, не даб'ецеся такога рэзультату.*

**Арсень Артысевіч:** — Як беларускі камітэт — магчыма. Але мы з'яўляемся часткай кааліцыі, якая мае шанц перамагчы ў выбарах. „Бельская кааліцыя", трэба адзначыць, стварылася ў адказ на запатрабаванне людзей на ясную сітуацыю, на — крыху спрошчваючы — „праваслаўна-левую" сілу.

**Васіль Ляшчынскі:** — Наш блок — антысалідарніцкі. Мы выступаем у апазіцыі да 4-гадовага перыяду ўлады ў нашым горадзе.

**А. Артысевіч:** — „Салідарнасць" змарнавала шанц на развіццё самаўрадавай дэмакратыі. Яны прынялі прынцып: пераможца бярэ ўсё.

**В. Ляшчынскі:** — Першыя сустрэчы гарадской рады былі поўныя энтузіязму, пакуль тадышнія пераможцы не пачалі карыстацца поўнасцю сваім прынцыпам. Выявілася гэта вельмі ярка ўжо падчас выбараў бурмістра, гарадской управы. Таму мы цяпер хочам мець большасць, каб скончыць з такой практыкай, каб для ўсіх бяльшчан былі больш справядлівыя варункі жыцця і працы. Каб была пашана для меншасцяў.

**Андрэй Сцепанюк** (старшыня ВВК, некандыдат): — На працягу апошніх чатырох гадоў у горадзе наступіў выразны падзел. І то не толькі ў радзе, але і ў грамадстве.

**В. Ляшчынскі:** — Цяперашняя ўлада на грамадскасць горада глядзела толькі з аднаго боку. За час, калі яна кіравала Бельскам назбіраецца многа прыкладаў дыскрымінацыі: нацыянальнай, рэлігійнай, а таксама людзей з іншымі палітычнымі поглядамі.

**А. Сцепанюк:** — Гэта добра памятаюць людзі звольненыя з бельскіх прадпрыемстваў, з магістрата. А якія адносіны былі да беларускага школьніцтва? Мы хочам скончыць з сітуацыяй, калі нас не шануюць. Нас не як членаў рады, але як беларусаў, як грамадскасць горада. Памятаем жа ліст салідарніцкіх радных, што чагосьці такога як беларусы ўвогуле няма.

*— Якая ёсць гарантыя, што „Бельская кааліцыя" пасля выбараў не разляціцца?*

**А. Сцепанюк:** — Калі б мы перамаглі ў выбарах, тады пры ўладзе зможам утрымацца толькі ў такім выпадку, калі ўсе чатыры сілы кааліцыі будуць згодна з сабой супрацоўнічаць. Гэта і ёсць найлепшая гарантыя.

**А. Артысевіч:** — Мы падпісалі пагадненне. Я ведаю, што некаторыя занадта паперам не вераць, але хачу падкрэсліць, што мы яго выпрацоўвалі некалькі месяцаў. Трэба было ісці на розныя ўступкі, прыслухоўвацца да розных прапаноў, многія адкінуць, каб выбраць найлепшыя. Я думаю, у нас быў час дацерціся, зразумець свае рацыі і тую праўду, што толькі ў кааліцыі зможам абараніць свае інтарэсы.

*— Галоўным фактарам завязання вашай кааліцыі была апазіцыя да папярэдняй улады — правай, каталіцкай. Але ці ёсць у вас станоўчая праграма? Што будзеце рабіць, калі ў выбарах пераможаце?*

**А. Сцепанюк:** — Гэтая кааліцыя як адзіная мае праграму. Цяжка яе прадставіць у кароткай газетнай размове. Нагадаю толькі, што на выбары ідзем пад лозунгам: больш разумна, згодна, справядліва. Галоўнай нашай задачай будзе стварэнне з Бельска своеасаблівага гаспадарчага цэнтра ўсходняй Беласточчыны. За гэтым прамаўляе палажэнне горада...

**В. Ляшчынскі:** — І яго патэнцыял. Як людскі (у нас 2 тысячы беспрацоўных, што складае амаль 18% працаздольнага насельніцтва), так і індустрыйны. Я маю на ўвазе перш за ўсё заводы па перапрацоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў: збожжа, бульбы, лёну.

**Аляксандр Божка:** — У нас ёсць традыцыі і база. Вазьміце хаця б прадпрыемства „Вітаміна", якое скупляе ад сялян агародніну ды садавіну — яго халадзільная база паводле фінскай ліцэнзіі працавала ўсяго два гады і цяпер не выкарыстоўваецца. Або прадпрыемства перапрацоўкі лёну, г.зв. „рашарня". Трэба нанава глянуць на яго адкрыццё, пералічыць станоўчыя і адмоўныя бакі. Пры чым трэба памятаць, што цяперака, калі перарабляем лён, найбруднейшыя працэсы адбываюцца ў полі. Гавару гэта, бо некаторыя вельмі баяцца, каб „рашарня" зноў не спускала брудаў у Белую. Мы якраз бачым вялікі сэнс у экалагічна чыстай прадукцыі.

**А. Сцепанюк:** — Шмат ёсць праблем у горадзе, якім трэба па-новаму прыглянуцца. Я лічу важнай справай, каб прыязджалі да нас людзі з капіталам, каб хацелі тут інвеставаць. Трэба ім стварыць дзеля гэтага адпаведныя ўмовы.

**А. Артысевіч:** — „Бельскую кааліцыю" характарызуе здаровы розум і практычны падыход да канкрэтных праблем. Гэта выпрацоўвалася, што я ўжо падкрэсліваў, на працягу доўгіх месяцаў гарачых дыскусій. У такім горадзе як наш, напалову праваслаўным, напалову каталіцкім, улада не можа быць прадстаўніком аднае толькі паловы. Мусіць быць і такая, і такая, выводзіцца з розных груп, з розных асяроддзяў. Такая менавіта наша „Бельская кааліцыя".

**В. Ляшчынскі:** — Людзі аднак павінны памятаць, што ўплыў на тое, якая будзе ўлада на працягу наступных чатырох гадоў будуць мець толькі тыя, хто пойдзе на выбары. Мы можам мець найлепшыя задумы, праграмы, але нічога не зробім, калі зноў апынемся ў меншасці. Мы маем свядомасць, што ў нашых канкурэнтаў цэнтралізаваная структура і трэба спадзявацца з боку іхніх прыхільнікаў высокай прысутнасці на выбарах. Калі нашы не пойдуць — няхай тады прэтэнзіі маюць да саміх сябе.

Запісаў **МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# Ці ёсць яшчэ ў Белавежы беларусы?

**Гміна Белавежа налічвае недзе 3 тысячы жыхароў. Паводле войта, Анны Байко і намесніка войта — Віктара Мэрыка, 80% насельніцтва гміны — гэта беларусы. У гэтыя 80% залічаюцца таксама мешаныя сужонствы. Інакш выглядаюць рэлігійныя адносіны. Праваслаўных тут 1500 (50%). Яшчэ інакш выглядае статыстыка навучання рэлігіі ў Пачатковай школе. На 380 вучняў толькі 160 вучацца праваслаўнай рэлігіі (42%). Выкладчыкі рэлігіі сцвердзілі, што ўсе праваслаўныя дзеткі вывучаюць рэлігію. Дзеці з каталіцка-праваслаўных сем'яў ходзяць на рэлігію каталіцкую. У Белавежы, як ва ўсёй беларускай зямлі царствуе прынцыповы місіянерскі лозунг: „Katolik — Polak, prawosławny — Ruski.**

**Змарнаваны шанц**

Перад першымі вольнымі выбарамі ў гарадскія самаўрады ў Белавежы паўстаў Беларускі выбарчы камітэт. Гэты камітэт бесканкурэнтна перамог мясцовых „салідарнікаў". У гміннай радзе на 15 радных 12 — гэта кандыдаты Беларускага камітэта. Улада амаль поўнасцю перайшла ў рукі беларусаў.

Былі планы, надзеі, абяцанні...

Зараз жа Беларускі камітэт не існуе.

— Пагрызліся між сабой нашыя райцы і камітэт разваліўся, — кажа намеснік войта Віктар Мэрык.

**Войт гміны Анна Байко,**

сцвердзіла, што на працягу кадэнцыі (склікання) самаўрада ў Белавежы адбыліся важныя змены. Перш за ўсё завязалася супрацоўніцтва з Беларуссю, асабліва з Пружанскім і Камянецкім раёнамі. Супрацоўніцтва гэтае датычыць галоўным чынам спраў культуры і міжлюдскіх кантактаў. Жыхары Белавежы маглі ўрэшце наведаць сваякоў, якія апынуліся па другі бок мяжы. Таксама недалёка Пружан знаходзіцца магіла 60 белавежцаў, якія загінулі ў час II сусветнай вайны. Там арганізавалася супольная імша.

Важным і ўжо традыцыйным мерапрыемствам з'яўляецца „Купалле". У Белавежу прыязджаюць таксама танцавальныя і вакальныя калектывы з Беларусі.

— Dostaliśmy od nich (od Prużan) traktor w prezencie. Teraz jest on wykorzystany przy sprzątaniu miasta, — кажа пані войт.

На пытанні пра навучанне беларускай мовы ў школе войт сказала:

— Ci, co chcą, mogą się uczyć. Nie ma żadnych przeszkód. Ale ten język nie powinien być obowiązkowy w szkole.

Паводле пані войт, у Белавежы няма праблемы дэнацыяналізацыі.

— Rodzice sami uczą dzieci języka, historii ojczystej, literatury.

У школе з 1982 года мова не выкладаецца. І хаця я не пыталася якраз пра нацыянальныя канфлікты, пані войт „запэўніла", што ў Белавежы няма ніякіх „zatargów". Як прыклад гарманічнага сужыцця, паводле пані войт, белавежскія могілкі. Там побач праваслаўных пахаваныя каталікі, баптысты, „зялёнасвянткоўцы". Не дадала аднак, што на праваслаўных крыжах усё часцей і часцей надпісы высякаюць па-польску. Гэта якраз не з'яўляецца пашанай для праваслаўнай традыцыі. Праз нейкі час сляды па нашай нацыі загінуць нават на могілках.

Намеснік войта

**спадар Віктар Мэрык**

расчараваны працай у Беларускім камітэце.

— Мы, беларусы, баязлівыя, падатлівыя, не ўмеем змагацца за свае правы. Але сам урад дзяржавы павінен ахоўваць правы і інтарэсы нацыянальных меншасцей. Таксама патрэбная нам адна моцная беларуская арганізацыя. А так, калі і знойдзецца двух-трох дурняў, то што яны наваюць? У школу беларускую ніхто дзяцей не пашле, бо людзі ведаюць, якія іх дзеці будуць мець непрыемнасці.

— Ці некага пабілі, ці падпалілі, калі ён прызнаўся да беларускасці? — пытаюся.

— Даражэнькая, сюды ў Белавежу прыязджае „навалач" з цэлага свету. Мясцовыя палякі наогул не ствараюць супярэчнасцей. Аднак калі прыязджае экскурсія з Варшавы ці Познані і пачуе нашу мову, то можна пачуць і такое: „To co! Jeszcze na Sybir was nie wywieziono?" — інфармуе мяне спадар Мэрык.

Усё ж такі беларускую мову (як нідзе!) пашанцавала мне пачуць у будынку гміны. Многія працаўнікі (а асабліва спадар Мэрык) гаварылі між сабой па-беларуску, не зважаючы нават, што нейкая „навалач" (я!) там іх падслухоўвае.

— У Гміне

**не павінны гаварыць па-свойму**

— кажа кіраўнік бібліятэкі пані Нона Курыяновіч. — Гэта ж публічнае месца, і там трэба размаўляць па-польску! (пані Курыяновіч перайшла на беларускую мову, хаця мы гутарылі ў публічнай бібліятэцы).

„Ніву" белавежская бібліятэка не выпісвае. Пані Курыяновіч паказала мне гурбу некранутых падшытых нумароў:

— Людзі не ведаюць мовы. У школе няма таксама навучання беларускай мовы. У нас ёсць беларускія, рускія кніжкі. Цікавіцца імі толькі адзін такі чалавек, які безупынна сцеражэ, каб яны не прапалі.

— У вас была такая сітуацыя, што беларускія кніжкі знеслі ў падвал і хацелі спаліць? — пытаю.

— Гэта няпраўда, — катэгарычна запярэчыла кіраўнік бібліятэкі. — Гэтага не было!

— У Белавежы людзі жывуць паводле пэўных шаблонаў. Нават кніжкі чытаюць падобныя, — кажа спадарыня Курыяновіч. — Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца любоўныя раманы. Ёсць нават такая чытачка, якая на раз жадае 8 „арлекінаў".

—Jak człowiek się wychyli, to to jest źle widziane, — дадае мая інфарматарка.

— Ведаеце, мне вельмі жаль гэтай занікаючай нашай традыцыі, — прызнаецца спадарыня Курыяновіч.

Таксама ў Доме культуры не давялося мне пабачыць

**ніводнага беларускага акцэнту!**

Якраз барабаніў рок-гурт з мясцовага ляснога тэхнікума. Праўда, у мінулую нядзелю выступаў у зале кіно беларускі вакальна-танцавальны ансамбль „Завіруха" з Пружан. Паслухаць прыйшло недзе 200 чалавек. Выступленні былі за білетамі.

— Калі за такія мерапрыемсмтвы арганізатары патрабуюць хаця б сімвалічных грошай, гледачоў амаль не бывае, — кажа адзін з арганізатараў.

У Доме культуры таксама практыкуюцца дзіцячыя калектывы (польскія!). Вядуцца таксама курсы англійскай і нямецкай моў.

**Дырэктар Пачатковай школы**

Ванда Бяроза заявіла, што калі прыйшла працаваць у Белавежу, беларускай мовы ўжо не было. Пані дырэктар згадзілася са мной, што аб навучанні роднай мовы (а ў выпадку беларусаў — асабліва) павінна рашаць свядомая інтэлігенцыя. Няма сэнсу ўсё скідаць на бацькоў, якія наогул самі не ўмеюць ні пісаць, ні чытаць па-беларуску.

— Dobrze by było ten język tu znowu wprowadzić! Przynajmniej jakiś białorutenista miałby pracę, — кажа дырэктар. Аднак у ажыццяўленні гэтай задумы спадарыня Бяроза сумняваецца, гаворачы: „Pani nie wie, jacy tu są ludzie!"

Давялося мне таксама пагаварыць з былой настаўніцай беларускай мовы, русісткай Валянцінай Віданоў.

— Ja naprawdę po białorusku nie będę mogła mówić, właściwie bo ja jestem rusycystką, a język białoruski znam ze szkoły podstawowej i liceum, — паясняла нервова былая настаўніца беларускай мовы. — Te dzieci, które uczyłam, nie umiały (w klasie 7 i 8) nawet czytać. Nie miałam satysfakcji zawodowej.

Настаўніца зараз перакваліфікоўваецца на англістку.

**Іскра надзеі**

У праваслаўнай парафіі рух. У нядзелю прыхадское свята — св. Мікалая. Матушка Вольга і айцец Сяргей Корх знайшлі аднак час на размову і гасціну. На тысячу пяцьсот праваслаўных, практукуе толькі 800 вернікаў. Гэта значыць, не ходзяць да споведзі, прынамсі раз у год, 700 прыхаджан.

У 1993 годзе ў прыходзе памерлі 34 асобы, а 15 нарадзіліся. Найбольшай пагрозай з'яўляецца асіміляцыя ў каталіцкі бок. Паводле айца Сяргея, гэта жах, што бацькі не вучаць сваіх дзяцей па-свойму. Матушка, айцец Сяргей і Юрка Кулік навучаюць праваслаўнай рэлігіі. Карыстаюцца польскай мовай, бо дзеці ўсе польскамоўныя.

**Псаломшчык Юрка Кулік**

малады хлопец, родам з Падляшша, арганізаваў у Белавежы маладзёжны хор. На рэпетыцыі прыходзіць ужо 20 дзетак. Апрача царкоўнай музыкі, моладзь вывучае таксама і народныя песні. Амаль усё беларускае грамадства Белавежы бачыць у гэтым „праменьчык адраджэння". Каб хор развіваўся, пані войт паабяцала канкрэтную дапамогу. Пакуль што, гэта толькі праект.

**Быць праваслаўным у Белавежы не гонар**

— гаворыць адзін з адказныхураднікаў. Гэты інфарматар даказвае мне, што беларусаў у Белавежы ўжо няма (напэўна не ўцяміў, што „Ніва" гэта якраз беларуская газета!).

— Усе „яны" хочуць быць палякамі. Таму вельмі часта паненкі мараць ад дзіцяці, каб выйсці замуж за католіка. Тады яны большыя „палякі" за сапраўдных. Слова „беларус" значыць тут нешта хамскае і прымітыўнае. Мяне, напрыклад, здзіўляе тое, што калі такі „беларусін" і прызнаецца да сваёй нацыянальнасці, зазначае адразу, што ён таксама і паляк, бо жыве ў Польшчы і яшчэ перапрашае за тое, што ён праваслаўны.

Мой інфарматар расчараваны „tchórzliwością Białorusinów". Відаць аднак, што ў Белавежы жыве ён ужо шмат гадоў. Прысвоіў і сабе ён гэтую „tchórzliwość", бо недзе з 5 разоў абумоўліваў сабе ананімнасць.

—Ja sobie narobię tylko kłopotów przez tą swoją szczerość, — паўтараў безупынна ўраднік.

Наведала я таксама белавежскіх сяброў „Нівы".

**Спадар Пётр Байко**

выдатны карэспандэнт „Нівы" расказаў мне адну вельмі тыповую гісторыю:

— Раз я праводзіў экскурсію з Познані. Расказваю ім пра сёе-тое, паясняю... Раптам куст заварушыўся. З зямлі падхапіўся мясцовы хлапчына, здорава напіты. „Ты ёб... мать, на якім ты языкеві гаворыш. Ты што... ужо па-нашаму гаварыць забыўся!" Менавіта ў такі спосаб турысты даведаліся пра нашых беларусаў.

Прычына дэнацыяналізацыі заключаецца і ў тым, што ўсе маладыя людзі — радавітыя белавежцы — павыязджалі ў Польшчу. Вельмі моцным польскім асяроддзем з'яўляюцца прыезджыя навукоўцы, якія працуюць у Белавежскім парку.

Наведала я таксама славутую беларускую мастачку

**Тамару Тарасевіч.**

Якраз вядуцца рамонтныя працы пры арганізацыі яе галерэі.

— Беларускія акцэнты напэўна тут будуць, — сказаў муж мастачкі, Сяргей.

Галерэя ў цэнтры Белавежы неўзабаве адкрыецца. Прынамсі будзе дзе схавацца ад бязлітаснай хмары камароў.

Сёлета, як ніколі, камароў у Белавежы процьма.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# КУДЫ „ПАДАЦЦА" ФЕСТЫВАЛЮ?

29 мая гэтага года закончыўся XIII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-94". Пачаўся ён 22 мая — упершыню гайнаўская музычная імпрэза мела такі каласальны маштаб — цягнулася яна тыдзень часу, а ўдзел у ёй прыняло 37 хораў з дванаццаці краін свету. Пасля адкрыцця Фестывалю ў нядзелю 22 мая, панядзелак быў днём, у якім арганізатары задумалі правесці семінар для дырыжораў. Конкурсныя праслухванні ў саборы Св. Тройцы пачаліся ў аўторак 24 мая і цягнуліся да суботы 28 мая. У апошні дзень фестывалю былі аб'яўлены вынікі конкурсу ды адбыліся два гала-канцэрты — адзін у Гайнаўцы і другі ў беластоцкай філармоніі. Упершыню таксама Фестывалю царкоўнай музыкі спадарожнічалі паралельныя канцэрты хораў у Беластоку. Тут, відаць, маштаб імпрэзы прымусіў ужо арганізатараў шукаць выхад у большы гарадскі асяродак. Хоць трэба тут прыгадаць цвёрдую пазіцыю дырэктара Фестывалю Мікалая Бушко — *вялікую справу можна рабіць у любым месцы.*

Хочацца ў гэтым месцы выказаць адну агульную рэфлексію. Гайнаўскі фестываль вырастаў з узроўню агляду царкоўных хораў, а ў трынаццатым сваім выпуску дасягнуў узроўню прафесійнага міжнароднага фестывалю, як сваім размерам, так і прафесійнасцю арганізацыі ды правядзення, што было заўважана і падкрэслена ўдзельнікамі журы. Можна тут запытаць пра межы прагрэсу імпрэзы — ці арганізатары далей намерваюцца расшыраць яе на штораз большую колькасць хораў ды расцягваць у часе, ці можа ўжо надышоў той момант, калі імпрэза дасягнула таго кшталту, які арганізатараў задавальняе ды наступным разам пакажуць публіцы ўжо *нешта іншае*, выключна з якаснага пункту гледжання. Усё гэта, вядома, залежыць ад задумы і магчымасцяў кіраўніцтва Фестывалю, якое штогод нанава адкрывае нам хараство царкоўнага спеву. Аднак, на думку аўтара, яркае прадвяшчэнне гэтай *новай якасці* мела ўжо месца сёлета. Якраз на гэты момант Фестывалю намерваюся і звярнуць увагу чытача.

Царкоўная музыка, харавы спеў маюць свае цвёрдыя прынцыпы. Сярод хораў-удзельнікаў гайнаўскага міжнароднага Фестывалю вылучаюцца дзве, так сказаць, несутыкальныя групы — прыхадскія хоры і свецкія прафесійныя. У першай катэгорыі царкоўны спеў з'яўляецца перш-наперш выявай малітвы, а пазней ужо явіцца ён як імкненне да мастацкай якасці. Для другой жа групы царкоўная музыка — гэта якраз чыстае мастацтва. І калі ідзе менавіта пра гэтае мастацтва, то царкоўныя спевы маюць ужо выпрацаваную сваю *класіку*, якую штогод чуем у Гайнаўцы ў выкананні прафесійных хораў з таго ці іншага кутка свету. Кампазітараў ахвотных сказаць новае слова ў гэтым жанры, ці проста сягнуць глыбей за XIX стагоддзе, не так ужо і шмат — у Польшчы кампазітарам такім з'яўляецца Рамуальд Твардоўскі, шматгадовы старшыня журы на гайнаўскім Фестывалі. Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы можа адыграць станоўчую ролю стымула для якаснага развіцця самой музыкі, паколькі гэта адзіная такая імпрэза ў свеце, а таксама і таму, што іншых стымулаў звычайна бракуе.

Што аднак у гайнаўскім Фестывалі з'яўляецца тым наймацнейшым магнітам? На маю думку з'яўляецца ім не *класіка* Бартнянскага ці Часнакова ў выкананні прафесіяналаў, але некласічная разнастайнасць харавой традыцыі ў розных кутках свету, у якіх трымаецца праваслаўе. У гэтым годзе да слухача ў Гайнаўцы прыехаў хор, які выканаў армянскую літургію, прыехаў хор са Славакіі, які паказаў сучаснае спяванне лэмкаў у іхняй царкве ды прыехаў хор амерыканскіх грэкаў, які

☞ *Працяг на стар. 9*

# Зорка
## старонка для дзяцей

Беластоцкія "Каласкі" на аглядзе беларускай песні ў Беластоку. **Фота С. Грынявіцкага**

### ШТО Ж ЗА ЁН БЫЎ, ТОЙ ХЛОПЕЦ?

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

Хлопцам назваў яго адзін малы чалавек з нашага двара. А быў гэта звычайны дваровы сабака.

Ніякі не медаліст і не нашчадак славутай сабачай радаслоўнай, вытокі якой губляюцца недзе ў абымшэлых часах.

Затое — сябар! Мой асабіста, нашага дому цалкам, усяе вуліцы, дзе мы жылі, дый, можна сказаць, усяе ўсходняй ускраіны горада.

Дома мы яго лічылі за сямейніка, сціплага сваяка, што ўсё чыста разумее, усім спагадае, толькі параіць не можа, не ўмее гаварыць.

Хто ж былі мы, хатнія? Наташа, жончына сястра, з сваёю дачкою Інай, я з жонкай. Усіх нас, як і ката Хаму, Дзік ведаў па імёнах, склікаў за стол есці, зваў з двара ў кватэру, запрашаў да тэлефона, рабіў многа іншых далікатных паслуг.

Найбольш турбот у яго было са мною. Звыкшы, што ў хаце на мяне казалі Алесь, ён вельмі смешна схіляў галаву набок, прыслухоўваўся, чаму я абзываюся, калі госці кажуць Максім. Найбольш блізкія яму былі словы Гаспадар і Гаспадыня, яны будуць часам ужывацца і далей. Не таму, каб падкрэсліць акалічнасці пяршынства ў доме ці, не дай Бог, уласніцтва, не. У сабачай свядомасці, сцвярджаюць кінолагі, гэтыя словы замацоўваюцца адразу ж і назаўсёды, вызначаючы асоб, каго трэба слухаць і самаахвярна бараніць, чые волі нельга пераступаць.

Гэты момант быццам бы маюць на ўвазе пры дрэсіроўцы, мусіць, так яно і ёсць. Перад вачыма: поўным поўная сабакарня вастравухіх і вастрамызых разумнікаў — службовых сабак. І кожны з іх чакае, здалёку пазнае, выконвае загады толькі аднаго, сціплага воіна-пагранічніка — Гаспадара.

Аўтар разумее, як рызыкоўна брацца пісаць пра сабаку пасля выдатных жыццярысаў яго слаўных папярэднікаў, як Белы клык і Белы Бім. Аднак не адкладае пяра — Дзік жыў у іншым часе, сярод іншых людзей у маладой, раскіданай вайной краіне. Дык ці не адкладуцца і ў нашым апісанні подых часу і чалавечыя аблічча?

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

<u>З вучнёўскай творчасці</u>

## НЕНАСЫТНЫ СВЯТАР

У адным сяле даўным-даўно жыў святар. Такіх як ён цяпер не бывае! Думаў ён толькі пра тое, як бы яму пабольшыць дабытак, як добра пажыць. Кажа святар званару:

— Лезь на званіцу, звані, кліч людзей, Богу маліцца.

Сышліся людзі, а святар гаворыць, прыгаворвае:

— Дай Госпаду, дай Госпаду!

Даюць яму мужыкі, жанчыны, хто ў кварту, хто ў талерку, а святар стаіць, дзякуе і прыглядаецца, хто колькі яму ўкіне. Вечарам сядзіць, лічыць грошы і ўсё яму мала.

— Яшчэ столькі прыдалося б!

Святам ён адкрые кнігу і чытае, быццам там напісана: „Не забывайцеся свайго айца. Насіце яму ўсё колькі маеце, Бог вам у сем разоў больш аддасць!"

І нясуць яму людзі, хто што мае, а святар сядзіць і цешыцца. Прыйшоў аднойчы селянін і пытае:

— А каб я вам даў карову, Бог аддаў бы мне іх сем?

— Дасць, напэўна дасць, у Бога ўсяго многа.

Зайшоў селянін дадому, закінуў карове на рогі вяроўку і павёў пад плябанію. Духоўнік думае: „От дурнячок, прывёў і карову!"

На наступны дзень вывеў селянін свае каровы на пашу, а побач пасвіліся каровы святара. Калі забіраў свае каровы, яго карова, якая першы дзень хадзіла з каровай айца, убачыўшы свой статак, далучылася да яго, а каровы святара следам пайшлі за ёю. Селянін, убачыўшы гэта, падумаў: „Праўду казаў айцец настаяцель!"

Святар тым часам стаіць на парозе і выглядае сваіх кароў. Аднак каровы не вярталіся, і вырашыў ён пайсці на луг паглядзець. Калі пераходзіў каля панадворка селяніна, убачыў там сваіх кароў:

— Чаму ў цябе чужыя каровы?

— У мяне няма чужых кароў, мяне Гасподзь за маю шчодрасць так узнагародзіў.

— Як гэта магчыма?!

— Ды вы ж, нам самі чыталі пра тое ў святой кнізе.

— Мала што ў кнігах пішуць!

Святар, аднак, не меў ужо тут чаго рабіць. Мусеў адрачыся ад сваіх кароў.

**ЭЛЯ СТЭПАНЮК**
**вучаніца VI класа**
**школы ў Дубічах-Царкоўных**

*Вершы Віктара Шведа*

### ЯК ВЫКЛЮЧЫЦЬ МАЛОГА?

Са шпіталя з немаўляткам
Бацькі прыехалі дахаты.
Яно крычыць беспералынку,
Не моўкне нават на хвілінку!

Звяртаецца да Вані тата:
— Мы вось купілі табе брата.
А Ваня тату стаў пытаць:
— Як жа яго нам выключаць?

### ТАТА ВІНАВАТЫ

— Калісьці, — кажа тата, —
Такую моладзь мелі,
Што нашыя дзяўчаты
Ад сораму гарэлі.

Пярэчыць стала Зося:
— Дык гэта ж не дзівота:
Ім чырванець прыйшлося
Ад тваіх анекдотаў.

### МЕНШЫХ ЛУЖАЎ НЕ БЫЛО!

Ад найгоршых сварыць мама
Неслухмянага Адама:
— Дзе ты валачыўся, гіцаль,
Змачыў боты, нагавіцы?!

Ты змясіць, напэўна, здужаў
Найвялікшыя ў нас лужы?
— Я прабег усё сяло,
Меншых, мама, не было!

### ЕШ, СЫНОЧАК!

— Еш, сыночак мілы, еш,
Яшчэ крышку, даражэнькі.
Не з'ясі — не падрасцеш,
Будзеш заўсягды маленькім.

Адазваўся Васілёк:
— А ці ты расцеш нам, мама?
— Не расту я ўжо, сынок.
— Дык навошта столькі гамаць?

### ПЕРАШКАДЖАЦЬ ЁН МНЕ НЕ БУДЗЕ!

— Патрэбны нам, сынок, спакой,
Крыкам напоўніў ты ўсю хату.
Нельга ўваходзіць у пакой,
Там дрэмле змучаны твой тата.

Не слухае перасцярог,
Хвіліну ён яшчэ марудзіць
І ўжо фарсіруе парог:
— Перашкаджаць ён мне не будзе.

### ХОВАНКІ

Са сваім цярплівым надта татам,
Што доні ўсё зрабіць гатоў,
У хованкі гуляе Ната,
Яна хаваецца без слоў.

Тата задоўга не шукае,
Дык і чакаць далей дарма!
Вось з-за дзвярэй крычыць малая:
— Ты, тата, глянь, мяне няма!

### АДГАДАНКА „ПАДАРОЖЖА"

**Маршрут трэці.** Яся. 1) *Гор — рог;* 2) *рад — дар;* 3) *гул — луг;* 4) *нас — сан;* 5) *кат — так;* 6) *малыш — шылам;* 7) *авал — лава;* 8) *полаг — галоп;* **Маршрут чацвёрты.** 1) *...лог, дзе мы гулялі ў футбол і дзе я забіў свой першы гол.* 2) *...ўе канапляную вяроўку і пытае мяне, ці еў я сёння.* 3) *...камар, калі я вымаў некалькі рамак з мёдам.* 4) *...ажур, а вышыта ружа.* 5) *...марш, у яго быў шрам на твары.* 6) *...ім, каб узялі ноту мі.* 7) *...дарага, і мы завялі свой агарод.* **Маршрут пяты.** *Код — док. Іна — Ані. Дар'я — я рад. Аня — яна. Зарыва — а выраз. Да — ад. Там — мат. Мо — ом. Бук — куб. Арам — мара. Аркі — ікра. Кокс — скок.*

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

30

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Маршрут трэці

Прыводзіць ён нас у школу. Вучні словы пішуць, але не так, як у нас, а наадварот. Адна дзяўчынка, *імя* якой пачынаецца і канчаецца літарай **я**, пераклала і запісала для нас на дошцы сказы, прапусціўшы толькі словы, якія аднолькава чытаюцца і ў іх, і ў нас, хоць яны і розныя па значэнню. Мы не адразу, але ўсё ж прачыталі гэтыя словы, размешчаныя папарна ў кожным сказе:

*1) З-за далёкіх ... паказаўся ... месяца. 2) Я ..., што мой ... прыйшоўся табе даспадобы. 3) Пачуўся ..., і на ... пачаў спускацца верталёт. 4) ... ніколі не бянтэжыла, што пыхлівы замежны госць мае высокі ... у сябе дома. 5) Фашысцкі ... быў пакараны — ... адпомсцілі партызаны за яго здзекі над вяскоўцамі. 6) Дарослыя недагледзелі, і ... параніў ... руку. 7) Лаўкі размясцілі так, што яны ўтварылі ..., у цэнтры якога стаяла доўгая ... для журы. 8) Паранены камандзір адхінуў ... і праз акно ўбачыў, што сувязны адразу ж пусціў каня ў ....*

Пасля гэтай работы нас чакаў

### Маршрут чацвёрты

Тут нам прыйшлося дапісаць сказы, якія не паспела дапісаць наша знаёмая дзяўчынка, імя якой з дзвюма літарамі **я**: яна пабегла на другі ўрок і паспела толькі сказаць, што ў працягу кожнага сказа абавязкова сустрэнуцца такія ж словы, як гэта было на папярэднім маршруце. Вось як пачынаюцца сказы, якія нам трэба закончыць:

*1) Паміж гарамі быў шырокі ..., дзе мы гулялі ў футбол і дзе .... 2) Дзед Мікіта ... канапляную вяроўку і пытае мяне, ці .... 3) Каля вулля мяне ўкусіў ..., калі я .... 4) Гэты від вышыўкі называецца ..., а вышыта .... 5) Стары трубач іграў ..., у яго .... 6) Баяністы памыліліся, і дырыжор сказаў ..., каб .... 7) Купляць ягады і ўсялякую зеляніну на рынку было ..., і мы ....*

Нялёгкае заданне пакінула нам дзяўчынка! Але нарэшце яно выканана, і мы можам пачынаць.

### Маршрут пяты

Тут нам, спадзяёмся, будзе лягчэй. Мы зайшлі на тэлефонную станцыю, набралі *ўмоўныя лічбы* і пазванілі дадому — расказаць пра падарожжа і пачуць хатнія навіны. Затым пайшлі далей, пакінуўшы ззаду *месца рамонту караблёў*. І раптам пачулі гучны голас:

*— Іна, Дар'я, Аня, глядзіце: зарыва да неба там, дзе лес — мо бук гарыць?*

Мы ледзь не кінуліся бегчы на дапамогу, але агледзелі, што не пажар гэта, а захад сонца. А той, хто крычаў, падышоў да нас і сказаў:

— Маё *імя* можна прачытаць так, што яно будзе азначаць *тое, да чаго імкнецца чалавек*. Але я дрэнна вучыўся і не магу палічыць, колькі слоў у тым сказе, што вы ў першы раз ад мяне пачулі. Можа, вы лепш за мяне гэта зробіце? І яшчэ: калі я крычаў гэты сказ, то думаў сапраўды, што пажар, і рассыпаў літары, з якіх здолеў скласці два словы, якія можна прачытаць як чатыры словы. Дапамажыце мне ў гэтай справе, вось літары: *а, і, р, к; к, к, с, о.*

Пакуль мы гэта ўсё зрабілі, дзень скончыўся, і толькі на наступны мы можам прадаўжаць падарожжа па маршруту шостаму.

*(працяг у наступным нумары)*

# АЛЕНЬ

У зарасніку маладога асінніку паказаўся невялікі табунок аленяў: стройная прыгожая аленіха з двума плямістымі аленянятамі. Яны рухаюцца няспешна. Маці заўсёды на варце: прынюхваецца, прыслухоўваецца, азіраецца. У маі—чэрвені самка аленя звычайна прыносіць 1—2 аленянят. У першыя дні свайго жыцця яны вельмі слабыя і не ідуць за маці, калі, напалоханая кім-небудзь, яна ўцякае, а прыціскаюцца да зямлі ў густой траве, імкнуцца затаіцца, плямістая афарбоўка скуркі робіць іх непрыкметнымі.

Растуць аленяняты хутка, праз 3 тыдні малочны рацыён дапаўняюць свежай травой, лісцем і маладымі парасткамі. „Меню" аленя налічвае больш за 200 відаў разнастайных травяністых раслін, хмызнякоў і маладых дрэўцаў. Аленяняты да двух гадоў маюць патрэбу ў апецы маці. Працягласць жыцця аленя ў прыродзе 12—15 гадоў. У няволі яны жывуць значна больш.

Алень — буйная, моцная і ў той жа час вельмі зграбная жывёла. Буравата-рыжаватае стройнае тулава на высокіх і тонкіх нагах, доўгая шыя, лёгкая выцягнутая галава, у самцоў упрыгожана каронай галінастых рагоў. Маса самца 200—250, самкі — 120—150 кілаграмаў. Вясной (у лютым—сакавіку) самцы скідаюць рогі і ў іх адрастаюць новыя, маладыя, так званыя панты. Яны мяккія, пакрыты, быццам футрам, дробнымі варсінкамі. Растуць вельмі хутка, і ў верасні самцы зноў носяць цяжкія галінастыя рогі.

Уранку і ўвечары на адкрытых лясных палянах або ў рэдкіх маладых пасадках чуецца адрывістае і глухое рыканне — „стогны" самцоў. Гэта пачаўся шлюбны перыяд. Самцы, якія ўсё лета трымаліся адасоблена, цяпер, упрыгожаныя новымі рагамі, адшукваюць самак. Часта паміж самцамі адбываюцца жорсткія сутычкі. Саперніки б'юцца моўчкі. Бойка цягнецца да таго часу, пакуль больш слабы не адступіць і не схаваецца ў цемры ночы. Пераможца некаторы час стаіць моўчкі, а затым урачыстым рыканнем апавяшчае жыхароў лесу аб сваёй перамозе.

У Беларусі налічваецца да 5 тысяч аленяў, большасць з іх жыве ў Белавежскай пушчы.

**А. КУРСКОЎ**

З гісторыі Беларусі

# БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

Хутка споўніцца 600 год, як татары пасяліліся на землях Беларусі. Яны прадстаўлены асобнай этнічнай групай (12 550 чалавек па перапісу 1989 г.). У гістарычнай літаратуры вядомы як ліпкі, літоўскія або польскія татары, заходнія татары. Продкі татараў з'явіліся на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага яшчэ на пачатку XIV стагоддзя. Першапачаткова сяліліся асобнымі слабодамі каля Вільні, Гродна, Ліды, Навагрудка, Крэва. Да пачатку XVI стагоддзя колькасць іх павялічылася да 100 тысяч чалавек. Вялікія князі Гедымін, Вітаўт запрашалі татар з Залатой Арды і Крыма, выкарыстоўвалі іх у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Тут знаходзілі прыстанак збеглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі трон. Сюды ў 1394 годзе пасля паражэння ад Цімура адступіў вялікі хан Залатой Арды Тахтамыш са сваёй дружынай. Гасцінна прыняты Вітаўтам, ён пасяліўся ў Лідзе. У выніку паспяховага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў (1397) у Беларусь перасялілася вялікая колькасць татар. Больш сяліліся каля Вільні, у Лідскім, Ашмянскім, Навагрудскім, Брэсцкім паветах. Татары прымалі актыўны ўдзел у Грунвальдскай бітве (1410 г.).

Татарскія пасяленцы ў Беларусі доўгі час захоўвалі сваю сацыяльна-племянную арганізацыю, традыцыйныя звычаі, абрады, вераванні і адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва асаблівасцямі культуры. Па сацыяльна-прававым становішчы большую частку беларускіх татар складалі служылыя, якія юрыдычна прыраўноўваліся да шляхты. Перад першай сусветнай вайной 1914—1918 гадоў на рускай службе знаходзілася 18 татар-генералаў, якія паходзілі з Беларусі. Палкоўнікаў, маёраў і ніжэйшых афіцэраў былі сотні. У выніку першай сусветнай вайны адзіны народ — беларускія татары былі разарваны. Частка (каля 6 тыс.) аказалася ў межах Польшчы, каля 1 тысячы — у Літве, каля 7 тыс. у Беларусі. Змрочныя, цяжкія гады сталіншчыны не абышлі і беларускіх татар. Нацыянальная культура беларускіх татар, якая захоўвалася стагоддзі, занапала за гады савецкай улады. Закрываліся мячэці, забываліся традыцыі. Пасля 2-ой сусветнай вайны захавалася адна дзеючая мячэць у мястэчку Іўе Гродзенскай вобласці, якая і зараз застаецца адзінай у Беларусі.

**ІБРАГІМ КАНАПАЦКІ**

Беларускія гульні

# МАК

Дзеці ўтвараюць карагод. У сярэдзіне стаіць адзін з удзельнікаў. Усе пяюць:

*А на гары мак,*
*Пад гарой так.*
*Белы мае маковачкі,*
*Залатыя галовачкі,*
*Стойце вы так,*
*Як зелен мак.*

Пасля гэтага пытаюцца ў таго, хто стаіць у сярэдзіне карагода:

— Кума, кума, ці сеяла мак?

Яна адказвае адмоўна. Зноў усе пяюць песню і зноў задаюць кожны раз новае пытанне:

— Кума, кума, ці палола мак?
— Кума, кума, ці цвіў мак?
— Кума, кума, ці пара трусіць мак?

Пасля апошняга пытання ўсе бягуць да дзяўчынкі ў сярэдзіне круга і трасуць яе за вушы.

[ Allegro ]










### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Адчыні вароты!
— А хто едзе?
— Той, што ўсё ўмее.
— Калі ўсё ўмее, дык няхай і вароты адчыніць.

* * *

— Чаму ты, дзяўчынка, у такое добрае надвор'е ходзіш пры парасоніку?
— Бо, як ідзе дождж, мама забірае.

* * *

— Во дзіва! Я чую, што людзі з алею робяць каменне. Як гэта яны робяць?
— Што ж тут за дзіва? А як карова робіць малако з сена, бачыў хто?

### ЛАГАГРЫФ



1. жонка цара, 2. польскі манарх, 3. кароль адзяваў яе на галаву, 4. сядзіба польскіх каралёў, 5. сядзіба расейскіх цароў, 6. рака, якая цячэ праз старажытны беларускі горад Полацак.

Вылучаныя літары складуць назву праваслаўнай святыні.

ДА 15-ГОДДЗЯ КАЛЕКТЫВУ „ЖУРАВІНКІ"

# КАЛІ ПЕСНЯ ПЛЫВЕ АД СЭРЦА

Жанчыны з Агароднічкаў скардзяцца: „Вы ў „Ніве" ўжо пісалі пра розныя калектывы, нават у самыя далёкія мясцовасці ездзілі, а да нас, хаця тут так блізка, не прыехалі ніколі!" І маюць рацыю.

Можа, сапраўды так бывае ў жыцці, што найбліжэйшага не бачыш. Бо так папраўдзе, дык не было падстаў, каб не заўважыць пяцёх жанчын з калектыву „Журавінкі" з Агароднічкаў, якія ўжо і працуюць больш пятнаццаці гадоў, і ў розных аглядах беларускай песні далёка не апошнія, о не, месцы займалі. І ўзнагароды таксама атрымлівалі, а як жа!

* * *

Даўно ўжо не было такога свята ў Агароднічках. Прыехалі: бурмістр гміннага Супрасля Віктар Грыгенч, адтуль жа — дырэктар Гмінна-гарадскога асяродка культуры Эўгеніюш Шпакоўскі, а з Беластока — дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казімеж Дэркоўскі, Марыя Шышка з Аддзела культуры, турыстыкі і спорту Ваяводскай управы ў Беластоку, старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і сакратар Валянціна Ласкевіч, ну, а таксама прыехалі і мы, „Ніва".



*„Журавінкі" з Агароднічкаў адсвяткавалі сваё 15-годдзе.*

І вось 21 мая я ў гэтай падбеластоцкай вёсцы з багатымі беларускімі традыцыямі, дзе між сабою людзі гавораць па-свойму. А столькі ж разоў даводзілася мне праязджаць у Супрасль ці Краснае па яе адзінай вуліцы, дзе, абганяючы аднойчы на крутым павароце веласіпедыстаў, я амаль не трапіла ў аўтамабільную катастрофу...

Жанчыны вельмі спяшаліся зрабіць гэта свята. Жартачкі! Праз якi тыдзень шаснаццаць гадоў мінае ўжо, як пачалі спяваць разам, а яны яшчэ круглай даты — пятнаццацігоддзя — не адзначылі. Сорам і перад людзьмі, бо хацелі б, каб было праўдзіва.

У рамізе аднак, дзе прыгарадскія людзі з Агароднічкаў і Супрасля сабраліся на канцэрт, чуваць польская мова. (На нядаўнім свяце ў Гарадку ўсе размаўлялі так, як гэта робяць штодзень, па-беларуску.) І канцэрт вядзе тут Ніна Аўгустыновіч на двух мовах, неяк сарамліва выдабываючы з сябе беларускую версію. Ды і спяваць пачалі з паклонам у бок афіцыйных гасцей, па-польску.

Але калі, праспяваўшы так тры песні — прывітальную, пра сваё пятнаццацігоддзе, пра Беластоцкую краіну, і... грымнулі беларускую „Ой там, за гарамі", — адразу стала ясна, што цяпер яны ў сваёй стыхіі. Спявалі зладжана, натуральна, упэўнена. Было відаць, што спяваюць не па заказу: песня плыла ад сэрца. І так ужо было да канца іх выступлення — ці спявалі яны беларускія народныя песні, ці тыя, што стварылі самі, на базе мясцовых падзей і гаворкі. „Ой, вішанька-чарэшанька", „Дробны дождж ідзе", жартоўная „Сем гародаў пасадзіла" і іншыя ды іншыя песні выклікалі ўсё большыя апладысменты сабраных, разагравалі іх. І не было ім важна, што ў гэтых спевах праблісквалі і польскія, і рускія, і ўкраінскія элементы. Людзям гэтыя спевы былі блізкія.

„Журавінкі" цешацца: ой, як жа гэта добра сталася, не было ў нас дагэтуль столькі гасцей... Здаецца, сэрца гатовы пакласці на далонь. Хвалююцца, каб хаця ўсё добра выпала.

А тут прывітанні, зычанні ды яшчэ і нейкія ўзнагароды. Нават віншавальны ліст ад беластоцкага ваяводы. Ды і не толькі ад афіцыйных асоб — Люба Гаўрылюк віншуе ад беластоцкага калектыву, а Ніна Цыванюк — ад гарадоцкага, які ў поўным складзе прыехаў сёння ў Агароднічкі з цудоўным падарункам — вянком з 20 іх песень. Ёсць чаго цешыцца!

* * *

У Агароднічках, вёсцы, што ляжыць усяго ў сямі кіламетрах ад Беластока, сёння ў мастацкім калектыве спяваюць пяць жанчын: Ніна Аўгустыновіч, Лідзія Матэйчук, Ніна Матэйчук, Бася Лісевіч і Анна Сушко. У 1978 годзе, калі пачыналі дзейнічаць у гуртку вясковых гаспадынь, рашылі адразу, што будуць спяваць. За свае грошы куплялі матэрыял і шылі касцюмы.

„А потым было спатканне ў Беластоку, у Доме рамяства, і адной старэйшай жанчыне з варшаўскай цэнтралі вясковых гурткоў наш спеў так спадабаўся, што неўзабаве прыслалі яны нам 300 тысяч злотых, а гэта было нямала на тыя часы. За іх мы зрабілі для ўсіх спявачак па дзве пары ботаў — высокія і лёгкія", — расказваюць мне Ніна Аўгустыновіч і Лідзія Матэйчук.

Неўзабаве жанчыны з Агароднічкаў пачалі спяваць у розных аглядах. „За грошы, кажуць яны, — якія атрымлівалі ў конкурсах, мы справілі сабе строі. Гміна грошай не мела, а, зрэшты, мы і не прасілі. Дапамагаў крыху Васількаў. Цяпер абяцае дапамогу дырэктар супрасльскага ГОКу, каб калектыў хаця існаваў".

У Васількаве калектыў „Журавінкі" бывае часта. Разы чатыры выступаў у Супраслі. Спяваў таксама ў Гарадку, Бельску, Андрыянках, Генрыкове ды інш. Ну і, вядома, у Беластоку. У чэрвені яго ізноў запрасілі на святкаванне Дзён Супрасля.

Пра дзеі свайго спявання жанчыны вядуць хроніку. Назбіралася гэтага ўжо дзве кніжкі. Усе лічаць, што кіраўнічка калектыву гэта Ніна Аўгустыновіч. „Не, не кіраўнічка я, — пераконвае мяне яна. — У нас кіраўніка няма. Мы ўсе тут разам. Адна другую паправім і так спяваем. Можа, людзі так думаюць, бо я тут найстарэйшая". Скромны яна чалавек, але ва ўсім тут відаць яе рука.

А адкуль песні бяруць? „А ёсць у нас адна такая жанчына. Ніна Панкевіч называецца. Яна нам складае песні. Раней і спявала разам з намі. Яна ў нас здольная! Ідзеш, кажа, каня ўвязаць — ужо і песня гатова. А музыку? Музыку самі складаем. Мы працуем без кіраўніка", — канстатуе з лёгкім смуткам Ніна Аўгустыновіч.

* * *

Падышоў да мяне чалавек і пытае: „Вы з „Нівы"? Так, адказваю. У нас „Ніву" чытаюць, кажа. Ды вось бяда — кіёск „Руху" зліквідавалі. Ну, але нічога: людзі з Беластока „Ніву" прывозяць! Старэйшыя яе чытаюць, хаця, праўду кажучы, цяпер наогул мала прэсу купляюць, бо дарагая. А вы прыязджайце да нас!

Ніна Аўгустыновіч глядзіць на нас, усміхаецца ды кажа: „Во, гэта той, што не хацеў калісьці, каб я хадзіла спяваць!" Ну, так, гэта ж Уладзімір Аўгустыновіч, яе муж. Па ўсяму відаць, што і ён сёння шчаслівы.

А мне соромна, што „Ніва" прыехала ў Агароднічкі так позна.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтара**



*Памятны здымак з усімі, хто выступіў у канцэрце („Журавінкі", Люба Гаўрылюк з Беластока і гарадоцкі калектыў).*

Першы сёлетні

# НАРОДНЫ ФЭСТЫН ПАД ДУБАМІ

У апошнюю майскую нядзелю, 29 мая гэтага года ў Свінароях (Нараўчанская гміна) адбылося культурна-забаўляльнае мерапрыемства, якое арганізавалі Польске стронніцтво людове (ПСЛ) і Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ). Коратка кажучы, быў гэта народны фэстын з беларускай мастацкай праграмай. Месца адборнае — на ўскраіне Белавежскай пушчы ды пад спрадвечнымі дубамі, на якіх толькі паявіліся маладзенькія лісточкі.

Мерапрыемства прайшло пад знакам спорту, танцаў і спеваў. Гэта крыху нешта новае, але так яно сапраўды ёсць. У Нараўчанскай гміне яе войт ды дырэктар Гміннага асяродка культуры самі спартсмены і не дзіва, што спорту прысвячаюць многа ўвагі. Таму і фэстын пачалі спаборніцтвы футбольных камандаў з некалькіх гмінаў.

З канцэртамі выступілі беларускія харавыя калектывы „Крынічанкі" з Крынак і „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, ды жаночы хор з Нараўкі, а таксама танцавальныя дзіцячыя ансамблі, якія дзейнічаюць у гмінных асяродках культуры ў Крынках і Нараўцы. І тут трэба адзначыць, што дзеці выступілі захапляльна. Ну і выкананне песень было на высокім узроўні, але калі ідзе пра згаданыя хоры, дык гэта ўжо амаль прафесіяналы. Пры ўсім гэтым важна, што на фэстын прыйшло і прыехала з навакольных вёсак даволі многа людзей. Атмасферу ўсё ж крыху псавалі дакучлівыя камары, якіх процьма зляцелася нават пасярод дня. Толькі найбольш прадбачлівыя забралі з сабою адпаведную фармацэўтыку ад гэтых шкодных насякомых.

Варта дадаць, што не бракавала ларкоў з марожаным, усялякімі салодкімі ласункамі ды самымі рознымі цацкамі для дзяцей. Прадаваліся таксама беларускія кніжкі, календары і касеты з песнямі запісанымі на плёнку падчас сёлетняга Фестывалю беларускай песні ў Беластоку.

Сёлетні першы беларускі фэстын закончыўся народным гуляннем у Гмінным асяродку культуры (ГОК) у Нараўцы.

**ЯСЕНЬ**

Выстаўка ў Белавежы

# ПРЫРОДА НА ЗДЫМКАХ

Прозвішча Януша Гарэзьняка шматлікім нашым чытачам асацыюецца перш-наперш з выдадзеным у 1977 г. альбомам „Zielone grądy i czarne bory Białowieży", у якім гэты класік польскай прыродазнаўчай фатаграфіі змясціў каля двухсот сваіх чорна-белых здымкаў, адлюстроўваючых багацце прыроды Белавежскай пушчы і яе прыгажосць. Тэкст да названай кніжкі напісаў праф. Януш Б. Фаліньскі, кіраўнік Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта, з якім д-р Януш Гарэзьняк, як выкладчык батанікі ў Лодзінскім універсітэце, супрацоўнічае і заадно сябруе. Лодзінскі вучоны і фатограф часта наведвае пушчанскія нетры. Ён быў таксама членам Таварыства прыяцеляў Белавежы, пакуль яно яшчэ дзейнічала.

І, вось, Я. Гарэзьняк ізноў у Белавежы. На гэты раз не асабіста, а як аўтар здымкаў, якія экспануюцца на выстаўцы, падрыхтаванай навуковым працаўніком (заадно і фотаграфам) нацыянальнага парку, Анджэем Кэчыньскім, у памяшканні Прыродазнаўчага музея. Усіх здымкаў 22 — чорна-белых, даволі вялікіх памераў. На іх лясныя краявіды, магутныя дрэвы і цікавейшыя ці больш рэдкія віды раслін.

Выстаўка будзе адчынена да 26 чэрвеня. Яе можна наведваць штодзённа, апрача панядзелкаў, у гадзінах 9—15.30. У касе музея можна атрымаць лістоўку, у якой Я. Гарэзьняк выказвае свае заўвагі наконт прыродазнаўчай фатаграфіі.

**ПЁТР БАЙКО**

# ПАЛЕСЦІНА Ў ЧАСЫ ХРЫСТА

З часу, калі рымскі правадыр Пталамей Вялікі ўвайшоў у 63 г. да н.э. у Іерусалім, Палесціна стала часткай Рымскай імперыі. Рымскія імператары давалі ёй, як і Грэцыі, аўтаномію пад наглядам свайго губернатара. У сувязі з тым імператарскія загады ішлі не толькі да ўрада, але і да сената і народа. У Палесціне сенатам стаў сінедрыён, які хаця і быў падпарадкаваны рымскаму губернатару, аднак меў установы, сваю паліцыю, права на збіранне падаткаў, выдаванне судовых прыгавораў з тым, што выкананне іх зацвярджалася рымскім губернатарам. Сінедрыён з 71 члена састаўлялі тры групы: 1) свяшчэннікаў (садукеяў), 2) фарысеяў і вучоных у Біблії (юрыстаў-тэолагаў), 3) старшых. Самы галоўны першасвяшчэннік быў старшынёй сінедрыёна і самым важным палітычным прадстаўніком свайго народа. І так галоўнае палітычнае і рэлігійнае кіраўніцтва апынулася ў руках садукеяў, якія прадстаўлялі інтарэсы свяшчэннікаў і ўсёй фінансавай эліты. У Талмудзе называлі іх „магутнымі" і „вялікімі Іерусаліма". У сінедрыёне яны мелі большасць галасоў. Садукеі не лічылі яўрэяў народам выбраным Богам. Яны прызнавалі толькі пісаны Закон, а адкідалі легенды, не верылі ў існаванне анёлаў, д'яблаў, не верылі ў будучае ўваскрэсенне з мёртвых і ў жыццё душы пасля смерці. Яны верылі толькі ў аднаго Бога, прытрымліваліся абраду абразання, святкававлі ўсе яўрэйскія святы і суботу. З 37 г. да н.э. ідумейскі князь (Ідумея знаходзіцца на поўдзень ад Іудзеі) Ірад Вялікі атрымаў ад рымскага сената царскае званне і 33 гады кіраваў усёй Палесцінай і Ідумеяй. Быў ён дэспатам і тыранам у адносінах да сваіх падданых, але разбудаваў Іерусалім, будаваў тэатры, грэчаскія гімназіі (месца для гімнастыкі), пабудаваў іпадром і разбудаваў Іерусалімскі храм. Быў ён іудзеем. Памёр ён у 4 г. да н.э. і таму можна меркаваць, што пачатак нашай эры нязгодны ёсць з датай нараджэння Хрыста, паколькі ў Евангеллі ад Мацвея напісана, што Ісус нарадзіўся пры жыцці Ірада Вялікага. Хрыстос, відаць, нарадзіўся ў 7—6 г. да н.э. Ірад Вялікі прыгаварыў да кары смерці многіх важных садукеяў і прысвойваў званні першасвяшчэннікаў многім нягодным гэтага наймення. Пасля смерці Ірада Вялікага яго царства было падзелена паміж яго сыноў. Старэйшы, Архелай атрымаў Ідумею, Іудзею і Самарыю, Ірад Антыпа — Галілею і Перэю, а Філіп — Траханітыду. Архелай не атрымаў царскага звання, а толькі тытул этнарха (губернатара), а яго браты — тытулы тэтрархаў (уладароў чацвёртай часткі). У 6 г. да н.э. Архелаю за яго дэспатызм Рым адабраў званне этнарха, загадаў прыехаць яму ў сталіцу імперыі, і потым выгнаў яго ў Галію. Правінцыі, якімі ён кіраваў, рымскі імператар аддаў пад кіраўніцтва рымскаму пракуратару, які загадваў войскам, збіраў падаткі і меў права караць смерцю. Пракуратары мелі сваю рэзідэнцыю ў Кесарыі, а ў Іерусалім прыязджалі пры нагодзе вялікіх яўрэйскіх свят, калі сходзілася мноства пілігрымаў і мог узнікнуць бунт. У 26 г. пракуратарам быў назначаны Пілат Понцкі, чалавек таўстаскуры, нахабны, які не лічыўся ні з псіхалогіяй яўрэяў, ні з іх рэлігіяй. Быў ён тупымураднікам Рымскай імперыі. А многія яўрэі былі рэлігійнымі фанатыкамі, шавіністамі і бунтаўшчыкамі і ўвесь час сабатавалі акупантаў. Ужо ў першым годзе свайго панавання Пілат вызваў вялікі бунт у яўрэяў. Ён загадаў сваім легіёнам увайсці ў Іерусалім з царскімі знакамі, на шчытах, на якіх, акрамя арла, віднела выява імператара. Яўрэйская рэлігія (другая запаведзь Майсея) не дазваляе паказваць выяваў людзей у скульптуры і жывапісе і яўрэі ўспрынялі гэта, як аганьбаванне іх храма. Усе пратэставалі і арганізавалі вялікі паход у Кесарыю, аддаленую ў 120 км. ад Іерусаліма. Яўрэйскія фанатыкі акружылі палац пракуратара і пачалі крычаць, гразіць і патрабаваць у Пілата, каб ён забраў царскія знакі са святога горада. Пілат на працягу пяці дзён не выходзіў з палаца, чакаў, што яны самі разыдуцца. А на шосты дзень ён даў яўрэям загад сабрацца на мясцовым іпадроме. Прыйшло 20 тысяч фанатыкаў і тады паявіўся пракуратар на чале легіёнаў і заявіў бунтаўшчыкам, каб вярнуліся яны дамоў, бо ён царскія знакі з Іерусаліма не забярэ, а калі яны яго не паслухаюць, то ўсім ім здыме галовы. Пілат загадаў легіяністам выцягнуць мячы. І сталася тое, чаго ён не чакаў: усе яўрэі ўпалі на зямлю іпадрома і адкрылі свае каракі і такім чынам далі зразумець, што яны ўсе гатовы хутчэй памерці ад мяча, чым яму ўступіць. Пілат не ведаў, што рабіць. Не мог ён забіць тысячаў сваіх падданых, бо Рым яму б гэтага не дараваў. І загадаў ён легіёнам адысці, а яўрэям абяцаў забраць царскія знакі з Іерусаліма. Але гэты інцыдэнт нічога яго не навучыў. Пасля нейкага часу Пілат загадаў павесіць на палацы Ірада шчыты з выявай імператара і доўга не звяртаў увагі на яўрэйскія пратэсты, пакуль з Рыма не загадалі зняць гэтыя шчыты (яўрэі паслалі скаргу імператару).

Падобных паступкаў у яго было многа. У 35 г. (ужо пасля распяцця Ісуса) у Самарыі паявіўся нейкі махляр, які называў сябе прарокам і пачаў клікаць людзей, каб ішлі з ім на гару Гарызім (на ёй калісь знаходзіўся храм самаран, знішчаны ў 137 г. да н.э. царом Іудзеі Гірканам), дзе ён ім пакажа прадметы, якія быццам бы схаваў Майсей (біблейскія самаране прызнавалі толькі пяць кніг Майсея, і таму яўрэі адносіліся да іх горш, чым да язычнікаў). Пілігрымы, якія пайшлі на гару, не мелі варожых намераў і для рымлян не стваралі небяспекі. Але Пілат не вытрымаў, паслаў туды свае легіёны і крывава расправіўся з пілігрымамі. І гэта яго згубіла. Самаране не выступалі супраць Рыма, жылі спакойна і іх моладзь служыла ў рымскай арміі. І калі аб разні самаран данеслі намесніку Сірыі Вітэлію, ён у 36 г. адаслаў Пілата ў Рым, а адтуль саслалі яго ў Віену ў Галіі, дзе той і памёр. З гэтага відна, з якой нянавісцю адносіліся яўрэі да Пілата. Не любілі яўрэі таксама і Ірада Антыпу, тэтрарха Галілеі, за яго дэспатызм, за пакаранне смерцю Іаана Хрысціцеля. У 39 г. імператар Калігула адклікаў яго і выслаў у горад Ліён у Галіі. Філіп памёр у 34 г., не пакінуўшы патомства і яго землі далучылі да Сірыі. У 44 г., пасля смерці Ірада Агрыпы, уся Палесціна стала рымскай правінцыяй. Ірад Агрыпа, унук Ірада Вялікага, ад імператараў Калігулы, а пасля Клаўдзія атрымаў Іудзею і Самарыю і стаў у 41 г. царом на тры гады.

У Іудзеі замацавалася ўлада былога першасвяшчэнніка Анны. Сваю пасаду купіў ён за золата, якое сабраў у храме. У 16 г. рымскія акупанты знялі яго з пасады, аднак яго ўплыў на палітыку працягваўся. Ва ўсіх справах яму належала апошняе слова. Таму Ісуса, паводле Евангелля ад Іаана, завялі ў першую чаргу да яго, а пасля да першасвяшчэнніка Каіафы (яго зяця), і тады ў сінедрыён. Род Анны трымаўся доўга. Калі знялі Анну, то пасаду першасвяшчэнніка далі яго сыну Элеазару (16—17 г.), потым яго зяцю Каіафу (18—36 г.), а пасля чатыром яго сынам. Апошні сын Анны — Анна — панаваў у 62 г. Ён у тым жа годзе пакараў смерцю Якуба Справядлівага, брата Госпада (кіраўніка іуда-хрысціянскай Царквы ў Іерусаліме).

Яўрэйскія грамадзяне, якія не мелі свабоды, чакалі Месію з роду Давіда, які адновіць Царства Ізраіля і яго даўнюю славу. Верылі ў гэта і фарысеі, і яўрэі. Праціўнікамі садукеяў былі фарысеі, якія мелі вялікі ўплыў на яўрэйскі народ. Фарысеі выступалі супраць чужаземных уплываў і лічылі, што трэба захоўваць правілы сваёй веры. Яны верылі ў несмяротную душу чалавека і ў тое, што праведныя ў будучыні ўваскрэснуць з мёртвых, верылі ў анёлаў і д'яблаў. Месію яны ўяўлялі як ваюючага цара-пераможцу, які вызваліць іх ад улады язычнікаў і створыць у будучыні Божае Царства на зямлі, з якога выкіне грэшнікаў. Яны выконвалі ўсе Законы Майсея, верылі ў легенды і пагарджалі ўсімі, якія не выконвалі ўсіх знешніх правілаў Закона і ўсімі тымі, хто не быў фарысеем. Садукеі прапалі пасля паўстання яўрэяў у 70 г., а фарысеі далей існавалі, і не толькі ў Палесціне. Трэцяя важная секта сярод яўрэяў (а іх было больш чым дзесяць) гэта есеі (эсены). Яны прадстаўлялі сабой невялікую абшчыну (4 000 чалавек), якія аддзяліліся ад іншых ізраільцян. Яны як манахі жылі ў закрытых храмах паблізу пустыні, самі, без жонак. У іх была супольная ўласнасць, яду прымалі супольна. Яны цвёрда выконвалі ўсе правілы Закона Майсея, адкідвалі аднак крывавыя ахвяры Богу. Яны выводзілі свае пачаткі ад нейкага настаўніка справядлівасці з часоў Махавеяў. Многія біблеёлагі мяркуюць, што Іаан Хрысціцель, а мажліва, што і Ісус, былі пачаткова ў секце есеяў. У 1947 г. і пазней ў пячорах было знойдзена многа папірусаў-манускрыптаў, якія есеі схавалі, калі ў 70 г. падчас паўстання яўрэяў бушавалі па Палесціне рымскія легіёны і ўсё нішчылі. Многія погляды, якія прапаведаваў Ісус былі згодны з поглядамі есеяў, якія вядомыя нам з манускрыптаў. Калі нават Ісус не належаў да ліку есеяў, то напэўна добра ведаў іх погляды і навуку.

Была яшчэ секта зелотаў, якія патаемна штылетамі ці нажамі забівалі рымлян або рэнегатаў. Зелотам быў апостал Сымон (Лука, 6:15), а мажліва і апостал Якуб Зевядзееў і брат Іаана, якога ў 44 г. цар Агрыпа I прыгаварыў да смяротнага пакарання праз адсячэнне галавы (Дз. А., 12: 2). Гэты спосаб пакарання быў у яўрэяў прадугледжаны для людзей абвінавачаных у забойстве. Рух зелотаў нарадзіўся ў 6 г. Іх бунт быў хутка падаўлены. Здаецца, што ў часе паўстання 66 г. есейства апынулася пад уплывам зелотаў. Астатнім бастыёнам зелотаў была крэпасць Масада, якая ўпала ў 73 г. пасля калектыўнага самагубства яе абаронцаў.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# КУДЫ „ПАДАЦЦА" ФЕСТЫВАЛЮ?

☛ *Працяг са стар. 5*

імкнецца спазнаць візантыйскую музычную традыцыю ды ейныя сувязі з сучаснай музычнай сістэмай. Хай сабе музыка грэкаў — дырыжор заявіў, што ў яго хоры ўдзельнічаюць выключна асобы з абсалютным музычным слухам, якія ў змозе спяваць чвэрці тонаў, — не навыкламу адрозніваць нават паловы тону слухачу, паказалася момантамі манатоннай, але ж дала нейкую ўяву пра карані царкоўнага спеву наогул ды пакінула ўражанне якойсьці незвычайнасці, ці лепш сказаць — самавітасці. Насычаны фальклорам спеў жанчын з Яробіна ў Славакіі (выступалі ў народнай вопратцы) быў, пэўна, бліжэйшы гэтай жа фальклорнай песні, чымсьці нашай уяве пра царкоўнае харавое мастацтва, але ж у іх менавіта так спяваецца ў царкве. Ды спявае не адно хор, але ўсе вернікі.

Такіх вось элементаў, якія на першы погляд не ўпісваюцца ў наша разуменне праваслаўнага царкоўнага спеву, але якія для іншага народу з'яўляюцца жывой традыцыяй, хацелася б бачыць у Гайнаўцы як найболей. Ці арганізатары Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы пойдуць гэтым следам? Час пакажа.

**А. МАКСІМЮК**

## ВЫНІКІ КОНКУРСУ XIII МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ „ГАЙНАЎКА-94"

(Журы прызнавала першае месца ў катэгорыі і вылучэнні)

**Вясковыя прыхадскія хоры:**

1. Хор праваслаўнага прыхода ў Яробіне (Славакія).

**Гарадскія прыхадскія хоры:**

1. Хор Успенскага Сабора ў Залатаношы (Украіна)

і Маладзёжны хор прыхода св. Мікалая ў Беластоку.

Вылучэнне: Хор прыхода св. Яна Клімака на Волі ў Варшаве.

**Іншыя прыхадскія хоры:**

1. Хор Наваспаскага манастыра ў Маскве.

Вылучэнні: Хор „Рамэйка" (Romeiko) з Філадэльфіі (ЗША), Хор факультэта тэалогіі ў Вяліка-Тырнаве (Балгарыя), Хор Беластоцка-Гданьскай епархіі.

**Свецкія аматарскія хоры:**

1. Камерны хор з Наваполацка (Беларусь).

Вылучэнні: Дзявочы хор „Сакалята" з Рыбінска (Расія), Камерны хор „Альтэрацыя" з Плевен (Балгарыя), Capella Musicae Antiquae Orientalis з Познані.

**Свецкія прафесійныя хоры:**

1. Хор імя А. Тэр-Аганіс'яна з Ерэвана (Арменія)

і Камерны хор Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі (Расія).

Вылучэнні: Камерны хор „Благавест" з Рыгі (Латвія), Камерны хор Святаўваскрасенскага кафедральнага сабора ў Роўным (Украіна), Камерны хор „Санорус" з Маладзечна (Беларусь).

**Узнагароды публікі:**

I дзень — Хор праваслаўнага прыхода ў Яробіне,

II дзень — Хор Крыжаўздзвіжанскага сабора ў Калінінградзе,

III дзень — Хор Наваспаскага манастыра ў Маскве,

IV дзень — Дзявочы хор „Сакалята" з Рыбінска,

V дзень — Хор імя Тэр-Аганіс'яна з Ерэвана.

# З МІНУЛАГА НАРАЎКІ І АКОЛІЦ

## Частка II

Вёска пачатку XX стагоддзя магла ўразіць сваёй беднасцю. Не хапала тут не толькі хлеба і мяса, але і солі, мыла, не ставала грошай на абутак і вопратку. Найбольш цяжка было ў мнагадзетных сем'ях. Тут адна пара абутку служыла некалькім школьнікам і таму ў школу хадзілі яны па чарзе. Увечары вёскі патаналі ў поўнай цемры. Ніхто не паліў святла таму, што на газу і запалкі не было грошай. Толькі невялікая частка (10—15 прац.) багацейшых сялян мела магчымасць жыць лепш.

Каб паменшыць колькасць беспрацоўных, на беларускіх вёсках кіруючыя колы сталі праводзіць агітацыю за масавую эміграцыю ў Амерыку і Заходнюю Еўропу. Многія сяляне з Нараўчанскай акругі ў пошуках лепшага жыцця пакінулі родныя мясціны.

Не знаходзячы іншага выхаду з цяжкага становішча, сяляне вымушаны былі дзяліць свае невялікія ўчасткі зямлі на ўсё меншыя палоскі. Такія невялічкія гаспадаркі былі адзінай крыніцай утрымання сям'і. Кожны жыхар лічыў сваёй першай патрэбай капіць грошы дзеля таго, каб купіць кавалак зямлі. Развітацца з бядою было немагчыма.

Прыгнечаныя сяляне ўключыліся ў нацыянальна-вызваленчы рух. З 1925 года пачынае дзейнічаць Беларуская сялянска-рабочая грамада. Гурткі арганізаваліся, між іншым, у Масеве, Міхнаўцы, Старым Ляўкове, Нараўцы.

Кароткі перыяд савецкай улады ў 1939—1941 гадах унёс у сельскую гаспадарку дадатнія змены. Перш за ўсё праведзена была нацыяналізацыя памешчыцкіх, царкоўных і касцельных зямель і аддача іх сялянам камітэтамі падзелу зямлі ў Нараўцы і Старым Ляўкове.

Развіццё сельскай гаспадаркі спыніла другая сусветная вайна. Гітлераўскія акупанты з дапамогай тэрору ўстанавілі свае парадкі. Падзеленыя паміж сялянамі памешчыцкія землі ізноў былі аддадзены ўласнікам.

Акупацыя нанесла найбольшыя страты той частцы насельніцтва, якое жыло сярод лясоў або ў непасрэднай блізкасці з імі. Баючыся пашырэння партызанскага руху і сувязі з ім мясцовых сялян, немцы выдалі ўказ аб перасяленні невялікіх вёсак у пасёлкі, якія моцна ахоўваліся жандармерыяй. Будынкі вёсак Альхоўка, Міклашэва, Лясная, Тарнопаль, Забрады, Скупава, Капітаншчына, пачынаючы з 1942 года руйнаваліся. Некаторыя перавозілі ў Нараўку, Гайнаўку, Беласток, Пружаны, або спальвалі іх на месцы.

Пасляваеннае развіццё сельскай гаспадаркі праходзіла пад лозунгам яе адбудовы і разбудовы. Народны ўрад аказаў сялянам, асабліва высяленцам, матэрыяльную дапамогу ў форме крэдытаў і будаўнічых матэрыялаў. Сяляне хутка дасягнулі даваенны ўзровень вытворчасці ў сельскай гаспадарцы.

У Нараўчанскай акрузе дрэнна развіта пчалярства. У мінулым у лясах Белавежскай і Лядскай пушчаў яно складала асобную галіну гаспадаркі, якая экспартавала сваю прадукцыю ў выглядзе зліткаў воску і мёду ў цэнтральную Польшчу і нават за граніцу. Цяпер у сувязі са знішчэннямі лясоў, асабліва ліпы і іншых меданосных дрэў, змяніліся на горшае ўмовы пчалярства. Аднак не поўнасцю выкарыстоўваюцца нават існуючыя магчымасці. У Нараўчанскай акрузе сяляне маюць вялікія пасевы кармавых траў. Апрача таго тут многа сенажацяў у далінах рэк Нарва, Нараўка і Баброўка ды іх прытокаў, між іншым, Велічкоўкі, Акулінкі, Яблынёўкі, Елянкі, Брашчы і Лутоўні.

### Асвета, культура і ахова здароўя

Асвета на тэрыторыі нараўчанскай акругі мае сваю кароткую, але цікавую гісторыю развіцця. Яе зараджэнне звязана з прыездам сюды пасля трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай святароў-расейцаў, якія апрача багаслужэння вучылі мясцовых сялян спяваць набожныя песні і чытаць царкоўныя кнігі.

З часам знайшліся настаўнікі, якія хадзілі ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты і вучылі цэлыя сем'і (дзяцей і старэйшых) маліцца, чытаць, лічыць. Пасля, дзеля аблягчэння працы, пачалі збіраць насельніцтва ў адну хату і такім чынам узніклі школы граматы. Кошты ўтрымання такіх школ неслі сяляне.

У другой палове XIX стагоддзя пачалі паяўляцца царкоўна-прыхадскія і народныя школы. Дзеці вучыліся днём, а дарослыя — вечарам. Царкоўна-прыхадскія школы падлягалі царкоўнай адміністрацыі і асноўнай іх мэтай было выхаваць сялян у духу праваслаўнай веры, навучыць іх крыху чытаць і пісаць. У народных школах, якія былі падпарадкаваны міністэрству асветы, навучаліся апрача рэлігіі ўсе асноўныя прадметы. Да першай сусветнай вайны ў Нараўцы працавалі дзве школы.

У гады першай сусветнай вайны народная школа існавала ў Старым Ляўкове. Навучанне пачалі весці на роднай мове. Сам факт існавання беларускай народнай школы адыграў немалую ролю ў гісторыі нацыянальнай асветы. Беларускае насельніцтва ўпершыню пераканалася, што прыдатнасць роднай мовы не абмяжоўваецца толькі да сялянскай хаты, што на ёй можна чытаць і пісаць таксама як на расейскай ці польскай. Нават шматгадовая русіфікатарская палітыка царызму не змагла выкараніць у народзе імкненне да развіцця сваёй нацыянальнай культуры.

Пасля 1922 года прыезджыя настаўнікі пачалі праводзіць палітыку паланізацыі. Нічога дзіўнага, што падымаліся стыхійныя бунты. Сяляне Старога Ляўкова нават не пусцілі дзяцей у школу.

Урад не дазволіў арганізаваць ніводнай школы з беларускай мовай навучання. У 1938 годзе ў Нараўцы працавала поўная сямікласная школа. Адраджэнне беларускага школьніцтва наступіла ў гады савецкай улады на Беласточчыне (1939—1941).

У час гітлераўскай акупацыі ў большых вёсках амаль два гады існавалі беларускія школы, якія аднак працавалі без падручнікаў і праграм.

Пасля вызвалення асвета апынулася ў цяжкім становішчы. Было знішчана абсталяванне, у далейшым не было падручнікаў. У 1945 годзе не было ніводнай школы, якая б магла прыняць вучняў. З вялікімі цяжкасцямі ладзілася навучанне дзяцей, раслі мясцовыя настаўніцкія кадры. Лік школ паступова павялічваўся. Зараз пачатковыя школы працуюць у Нараўцы, Семяноўцы, Старым Ляўкове і Ляшуках. Раней школы існавалі яшчэ ў Альхоўцы, Скупаве, Луцэ і Ахрымах. Дзіцячыя садкі (прадшколлі) працуюць у Нараўцы і ў Старым Ляўкове.

Культурным жыццём насельніцтва да вайны амаль ніхто не цікавіўся. Пасля вызвалення трэба было пачынаць працу не маючы базы да дзейнасці: не было святліц, бібліятэк, адпаведна падрыхтаваных кадраў. За кароткі перыяд наступілі вялікія змены. Значны ўклад працы ў развіццё культуры ўнеслі настаўнікі і члены Саюза польскай моладзі. У Нараўцы, Старым Ляўкове і ў Семяноўцы былі заснаваны публічныя бібліятэкі. У Нараўцы пачало працаваць кіно „Лес". Чыгуначнікі адкрылі святліцу ў Плянце. Ладзілі танцы ў святліцах у Семяноўцы і Старым Ляўкове. Пачала прыязджаць сюды кінаперасоўка.

Асноўнай формай культурнай дзейнасці быў мастацкі рух. Самадзейныя гурткі працавалі ў Старым Ляўкове, Ляшуках, Скупаве і Семяноўцы. Гурткі ў Ляшуках і Скупаве мелі, між іншым, тэатральны напрамак і рэпертуар на беларускай мове. З канцэртамі прыязджала эстрадная група ГП БГКТ „Лявоніха".

Ахова здароўя да другой сусветнай вайны была адной з больш занядбаных галін жыцця. Лячылі розныя знахары. Вялікі аўтарытэт мелі парадухі-„бабкі".

Пры народнай уладзе арганізавалі адкрытае лячэнне. Першапачаткова заснавалі медычны пункт у Нараўцы, фельчарскія пункты ў Старым Ляўкове і ў Семяноўцы. Пры медпункце была аптэка. У Нараўцы арганізавалі радзільны дом. Насельніцтва ахвотна карысталася медыцынскай дапамогай. Ужо ў 1960 годзе 82% дзяцей радзілася пад апекай акушэрак.

Зараз новыя асяродкі здароўя здадзены ў карыстанне ў Старым Ляўкове і ў Нараўцы.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка X

У выніку аперацыі „Баграціён", якая распачалася ў палове 1944 года, уся Беларусь была ачышчана ад немцаў. Уладзімір Клішэвіч разумеў, што застацца на роднай зямлі гэта значыць паўторна павандраваць у Сібір або пайсці ў зямлю. У такой сітуацыі рашыўся ўцякаць у глыбіню Германіі. І тут пачнецца трэці перыяд яго творчасці, перыяд нямецкі.

Чужына спаткала яго сурова і непрыхільна. У верасні 1944 года піша ён верш, які распачынаецца ад слоў „Ад жаху кроў у маіх жылах стыне". Верш гэты з'яўляецца адназначным сведчаннем аб тым, што Германія паэту не адпавядае ані фізічна, ані духова. Вера ў тое, што культурная Германія мае нейкія перавагі над адсталай Беларуссю, рухнула. Паэт з болем канстатуе:

*Ад жаху кроў у маіх жылах стыне.*
*Куды мяне нячыстая нясла?*
*Лягчэй было павіснуць на асіне,*
*Чым быць падобным на асла.*
*Здавалася мне, тут іначай,*
*Уклад жыцця людзей другі.*
*Ну а цяпер душа крывёю плача,*
*Спаткаўшы новыя няволі ланцугі.*

Аўтар гаворыць, што ён для нямецкага гаспадара — „жывёла" і гэта было несумненна формай цяжкага абвінавачання ў адрас той нацыі, якая ў перакананні многіх беларускіх падакупацыйных дзеячоў мела давесці беларускі народ да росквіту.

Прыведзены верш Клішэвіча быў не толькі горкай канстатацыяй, але і формай рэзкага абвінавачання ўчарашняга саюзніка. Характар гэтага твора з'яўляецца лішнім сведчаннем таго, што Расія і Нямеччына былі для яго толькі і выключна молатам і накавальняй, паміж якіх гісторыя прымусіла яго пакласці сваё цела і розум.

Паўтара года пазней, жывучы ў той жа Германіі, Уладзімір Клішэвіч, гледзячы на пасляваенныя руіны Бадэн-Вюртэмберга напіша свой абвінавачвальны санет, які закончыць як жа красамоўнай фразай: „Хто меч падняў, той згінуў ад мяча". Не можа быць ніякіх сумненняў, што словы гэтыя скіраваны ў адрас нямецкай нацыі, якая распачала вайну супраць іншых народаў і ў канцы канцоў была гэтымі народамі пераможана.

Характарызаваны верш адзначаецца высокай якасцю формы і апавядальным спакоем:

*Гляджу, як Некар пеніцца імкліва,*
*Бяжыць у далячынь няведама куды.*
*У хвалях мутнае халоднае вады*
*Агні дамоў калышуцца маўкліва.*
*Далёка цягнуцца абапал яго горы.*
*На берагах стаяць руіны-гарады.*
*І сведка жудасцяў прыбыламу сюды*
*Жахлівай мовай аб вайне гаворыць.*
*А я стаю і думаю ў трывозе:*
*Ляжыць руінаў дзікая пячаць*
*На чалавечай пройдзенай дарозе.*
*А словы мудрасці адно гучаць*
*Пад цемраю у цяжкай перамозе:*
*Хто меч падняў, той згінуў ад мяча.*

Прыведзены санет складаецца з дзвюх частак. Першая мае фатаграфічны характар і адносіцца да апісання выгляду развалін нямецкіх гарадоў. Няма ў ёй ніякіх эмацыянальных ацэнак. Аўтар абмяжоўваеццыа да канстатацыі фактаў, звязаных з гарадскімі руінамі. У другой частцы твора, якая пачынаецца ад слоў: „І сведка жудасцяў прыбыламу сюды" аўтар пакідае пазіцыю аб'ектыўнага назіральніка і пераходзіць да эмацыянальнай ацэнкі бачанага. Ацэнкі адназначнай у сэнсе фінальных канклюзіяў. Для Уладзіміра Клішэвіча вайна — гэта форма злачыннай чалавечай дзейнасці. Паводле пісьменніка, народ, які такую форму прымяняе ў адносінах з іншымі народамі, павінен прыняць пакаранне. Пакараннем ёсць прайграная вайна, усе вынікаючыя з яе фатальныя і трагічныя паслядоўнасці.

Можна было б паставіць пытанне, у які момант свайго жыцця дайшоў паэт да такога роду канстатацыі? Ці толькі тады, калі Германія канчаткова прайграла вайну? Здаецца мне, што элементы духоўнага крызісу паявіліся ў пісьменніка намнога раней, яшчэ тады, калі трыумфальныя нямецкія кагорты ішлі наперад, пакідаючы за сабой попел і кроў. Ужо тады Клішэвіч не быў прыхільнікам вайны. Да поўнага яе асуджэння дайшоў ён, стоячы на руінах гітлераўскай Германіі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ЗАЧАРАВАНЫ КРАЙ

Працяг са стар. 1

купілі па тры свінкі. Ехалі на трактары Міколы. Калі ўжо даязджалі дадому, цётка раптам прыгадала, што ў хляве трэба яшчэ падаслаць і што найлепш будзе, калі сусед возьме свіней да сябе. Так і зрабілі. Праз гадзіну цётка прыйшла ў хлеў Міколы Г. і злавіла ў мяшок дзве свінкі і парсючка.

— Од тойі поры свіні зноў пачалі вэстіся, — кажа мая інфарматарка.

Вельмі часта людзі чаруюць, каб

**зрабіць на злосць.**

Калі да людзей прычапілася бяда, тады чары шукаюць сяброўства. Жорсткім і бяздушным прыкладам з'яўляецца гісторыя Сашкі М. Паводле слоў яго маці, справа выглядала так:

— Муй хлопэць то стаў выпіваті од той поры, як то Костіковы ёго почастовалі.

У „Костіковых" пілі безупынна сын і нявестка. Пілі яны і ўдзень і ўночы, людзям спаць не давалі. Тады Манька К., маці адзінага сына-п'яніцы пачала шукаць ратунку ў варожак і варажэяў. Прывезла яна адтуль бутэльку „замоўленай" вады. Гэтую ваду падліла ў спірт „Раял" кампаніі, якая адчайна дамагалася гарэлкі. Сын і нявестка піць не перасталі. Але ад гэтага „напітку" распіўся Сашка М. — дагэтуль не п'ючы працаўнік нараўскага „Пронару". Дайшло да таго, што хлопец ужо не працуе і нічым не цікавіцца, адно безупынна бегае да „Костіковых" і там прапівае дабро. Абкрадае ён сваіх бацькоў і суседзяў, каб толькі мець на гарэлку. Не хоча таксама жаніцца. Каб „ачысціць" Сашку, ягоная маці ездзіць па ўсіх вядомых магах. Самае няшчасце заключаецца ў тым, што ніхто, апрача „Костіковых", не ведае, чым напаілі Сашку, „ад каго" была „замоўлена" вада.

Здараюцца таксама такія практыкі, калі людзі

**чаруюць у абароне хрысціянскіх вартасцей.**

Максім А., жыхар Гайнаўкі, не цярпеў іншаверцаў. Калі яго хрышчоная дачка выходзіла замуж за католіка, дзядзька не знаходзіў сабе месца. Але на вяселле трэба было безумоўна ехаць. Калі бацька маладой загадаў яму, хроснаму бацьку, пасвянціць машыну маладых, Максім спрактыкаваў скансультаваную са сваёй жонкай (у якой маці — страшэнная ведзьма) чарадзейскую замену. Замест свянцонай вады ён пакарыстаўся вадой з крана. Гэта дзеля таго, каб „праваслаўнай вадой не крапіць каталіцкага зяця". Пасля такога асвянчэння маладыя безупынна плакалі і сварыліся, а ў канцы разышліся. Дзядзька Максім добра ведаў сваю віну, і жыць спакойна з той пары не ўмеў. Пасля разводу моцна захварэў. Усе яго знаёмыя і сваякі ў той адной варажбе бачаць прычыну смерці Максіма А.

Запамятаўся мне таксама надта незвычайны

**пошук справядлівасці.**

Настуся К. — 62-гадовая пенсіянерка пайшла падаць на тры цэркви сваю суседку Дуньку І. Прычынай канфлікту было тое, што Дунька І. безупынна чаравала. Давяла яна да таго, што бабка расхварэлася, страціла ўзносы на кватэру ў блоку для ўнука, а зяць нядаўна разбіў машыну. На дадатак у брата Настусі К. скідалася кабыла. Тады толькі ў Бога трэба шукаць справядлівасці. Цётка Дунька, 80-гадовая пенсіянерка, даведаўшыся ад людзей „чаго пайшла Настуся К. да бацюшкі", не сядзела дарма. На другі дзень пайшла да святара закупіць малебень за тое „каб Бог суседцы вярнуў розум". І чаму тады здзіўляцца?

Калі я збірала гэты матэрыял, безупынна псаваўся магнітафон і губляліся аўтаручкі. Да таго заўсёды падаў дождж і „ўцякаў" аўтобус. Калі пачынала я пісаць, хацелася спаць. Ну і не магла я прыдумаць заканчэння гэтага рэпартажу!

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# НІЎКА

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Савецкі хірург праводзіць складаную аперацыю:
— Спірт! — загадвае асістэнтцы.
— Цяпер тампон! — гаворыць праз хвіліну.
— Спірт!
— Тампон!
— Спірт!
— Спірт!
— Агурок!

* * *

Апоўначы ў доме загадчыка гарэлачнай крамы звоніць тэлефон.
— Спадар загадчык, — чуваць у трубцы тэлефона, — у колькі заўтра адкрываеце краму?
— Што за нахабнасць званіць у гэтую пару! — бурчыць загадчык, кідаючы трубку.
Праз дзве гадзіны зноў тэлефон:
— Шаноўненькі, як будзе з адкрыццём гэтай раскошнай крамы?
— Не жартуйце, я хачу спаць! — кідае трубку загадчык.
Мінае наступная гадзіна:
— С-спадар з-за-загадчык, у колькі га-гадзін адкры-ы-ва-еце кра-а-му?
— У дзесяць, але і так цябе, п'яніца, у краму не пушчу
— К-калі я н-не хачу ў-уваходзіць, я-а ха-а-чу вы-й-йсці...

* * *

— Хто быў першым камуністам у свеце?
— Адам: бегаў з голым азадкам і крычаў, што жыве ў раю.

* * *

— Да каго пішаш гэты ліст? — пытае жонка мужа.
— А чаму пытаеш?
— А ці ты ўсё мусіш ведаць?

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*Малюнак М. Сеўлюка*

## ТЭЛЕСЕКС

Пазаўчора ўстаў уранку,
Вочы трошачкі прамыў,
Адгарнуў з акна фіранку,
Тэлевізар уключыў.
Да сняданку я павінен
Знаць усё, чым свет жыве,
Паглядзець усе навіны —
Жыць так значна цікавей.
Што ж убачыў на экране? —
Цьфу ты, сорам, грэх сказаць...
Без усякага убрання
Дзеўкі ладзяцца спяваць.

Сонца толькі-толькі ўстала,
І на працу ўсім якраз,
А артысткі „прычындалы"
Выстаўляюць напаказ.
Добра, што мая старая
Каля печы ладзіць блін
І, відаць, не пажадае
Сексу больш ужо ні з кім.
...Сталі таньчыць маладзіцы,
„Прычындаламі" круціць,
Вышлю бабіну спадніцу,
Каб азадкі ім прыкрыць!

**МІХАСЬ ЧЫРУН**

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

**Прамова (спіч) Уладзіміра Караткевіча ў гонар ягамосьці Аляксея Нічыпаравіча Карпюка на яго шасцідзесяцігоддзі**

„...Мы шмат знаёмыя з Аляксеем Карпюком... Нават дружылі. Аднойчы ён мне нават даў сваю шапку, калі я ішоў на спатканне. Сказаў: „Сорамна табе ў такой шапцы ісці на спатканне". Здзёр з маёй галавы маю, а мне даў сваю. Добрая была шапка. Норкавая, ці якая яшчэ там.

Розпае ў нас бывала. І — хочаце верце, хочаце не — гэта не вы сёння прымусілі яго прылюдна зрабіць ягоны першы лык шампанскага. І я ганаруся гэтым. Ён сам тут не дасць схлусіць. І вось „неисповедимы пути господни", сёння ён шампанскае выпіў, а я вымушаны падымаць тост за яго здароўе і „сто год" мінеральнай вадой. (Рэпліка з месца: „Вось небяспека такой дружбы". Другая: „З кім павядзешся...") Цяпер мы крыху далей адзін ад аднаго (гарады), але сэрцы разам.

І яшчэ аб зменлівасці чалавечых лёсаў. Калі хочаце, я раскажу вам сплетню, якая ходзіць пра юбіляра. (Рэпліка: „Просім! Просім!") Кажуць, што ён і цяперашні папа рымскі родам з адных мясцін. Можа, і так, але вось промысел божы: адзін пайшоў у папы рымскія, а другі ў дырэктары антырэлігійнага музея... Вось як яно ў жыцці..."

І ўрэшце пайшлі простыя (а не юбілейныя) словы Валодзі Караткевіча пра тое, за што ён і мы любілі гэтага чалавека.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя")**

*Мал. Л. Разладава*

## НАРАЧАНКА

*(ахвярую працаўнікам летніка „Зубраня-93")*

*Музыка Зміцрака Яўтуховіча,*
*Словы Алеся Ставера*

У рытме твіста, актыўна

Сінім вечарам, ці сінім ранкам,
Як засвеціць расой сенажаць,
Нарачанка мая, нарачанка,
Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць. } 2 р.

За табой, як за песняй-заранкай
Я пайду да квяцістых лугоў.
Нарачанка мая, нарачанка —
Чараўніца маіх юных сноў. } 2 р.

Для цябе кветку шчасця, вяснянка,
Адшукаю ў любую пару.
Нарачанка мая, нарачанка,
Я каханне табе падару. } 2 р.

## СЕНТЭНЦЫІ

У сатыры, як у вожыка,
калючкі створаны для жыцця.

* * *

Грань існуе дзеля таго,
каб ты мог прыйсці ў сябе.

* * *

Фанабэрыя — сядзець вярхом
на чужых галовах.

**БАРЫС РУСКО**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ён быў маім першым і адзіным хлопцам, мужчынам. Стаў маім мужам, калі было мне ўсяго дваццаць гадоў. Пражылі мы разам аж трынаццаць, і я была найшчаслівейшай жанчынай пад сонцам. Ніколі нідзе нават не зірнула на іншага. Не хацела і непатрэбна было мне гэта. Я кахала свайго мужа верным, сабачым каханнем. Ну і пралічылася.

На чатырнаццатым годзе нашага супольнага жыцця мой муж памяняў працу. Ніколі дагэтуль ён бабнікам не быў, але тут працавалі адны бабы і „бабнікам" мусіў стацца хочаш не хочаш. Ну, і як жа было ад гэтых баб адчапіцца?! І праз нейкі час выбраў сабе „ляльку". Была калатнеча, я не разумела, чаго ён хоча. Не хацеў кахацца са мной, казаў, што хворы і хутка памрэ. Пасля рабіў мне сцэны зайздрасці. Я нават падумала, што я дурань, бо ўсё ён гэта робіць з кахання да мяне. Дарма!

Праз паўгода кінуў мяне і цэлую тройку нашых дзетак ды пачаў жыць з той другою, маладзейшай. Тая была яшчэ паненкай, не ведаю, чым яна яго ўзяла, мо маладосцю. Бо прыгажэйшая за мяне то яна не была! Я чула, што яны ездзілі па розных краінах і бавіліся як моладзь, толькі дзяцей ім Бог не даў. Але мой муж быў так закаханы ў гэту „ляльку", што пра сваіх дзетак і зусім забыўся. Цяжка было выцягнуць ад яго нейкі дадатковы грош, хаця аліменты на дзяцей плаціў рэгулярна.

Я не магла зразумець гэту жанчыну: як можна забраць у жонкі мужа, а ў дзяцей — бацьку?! Ёй было добра, а ці не падумала яна, як было нам?! Доўгімі бяссоннымі начамі я не магла думаць ні пра што іншае. Кахала свайго мужа нягледзячы на ўсе подласці, якія ён мне зрабіў. Чакала яго, верыла, што некалі вернецца да нас.

Так мінула сем гадоў. Я ўжо паволі пачынала траціць надзею, што ён некалі будзе з намі, калі неспадзявана ён стаў на парозе маёй хаты з чамаданчыкам у руках. Нясмела спытаў, ці ўпушчу яго. А як жа мне было яго не ўпусціць, калі ў сярэдзіне ў мяне ўсё закалацілася! Усе пачуцці, мары, спадзяванні нахлынулі на мяне з цэлай сілай, і я расплакалася.

Нарэшце, думала я. Нарэшце справядлівасць узяла верх, Бог усё бачыць! Але вельмі мяне здзівіла, што мой муж хоча мець асобны пакой. Ну, што ж, пакояў ёсць, бяры асобны, кажу. Аднак, гэта значыла больш, чым мне здавалася спачатку. Проста вярнуўся ён у сваю хату чужым чалавекам. Вярнуўся, бо яго найдаражэйшая пасхала ў Амерыку і там выйшла замуж. Пэўна, планавала гэта даўно і таму яны не бралі шлюбу, а мой муж не патрабаваў разводу.

А я чакала яго ўсёй сваёй душою. Нават ужо не думала, што ён там рабіў з той новай. Засумавала я па мужчыне.

Але мужчыны не было. Быў халодны, карыслівы чалавек. Жыў у нас, але не са мною.

Я пасівела ў свае сорак гадоў. Замест таго, каб сачыць за сабою, — апусцілася. Мне цяпер яшчэ больш сумна, чым было дагэтуль, бо няма ўжо ніякай надзеі на наша каханне. Як жыць, Сэрцайка?

**Соня**

Дарагая Соня! Пэўна, людзі праўду кажуць: не ўваходзяць два разы ў адну раку. Але мо гэта і лепш, што не дайшло ў вас да цяляснага збліжэння. Ты магла б быць страшна расчараваная, калі б адчула, што думкамі ён з іншай. Гэта былі б хвіліны катаргі, а не раскошы.

А так ты павінна ўсведаміць сабе, што былое скончылася назаўсёды, і паставіць кропку над *і*. Можа, удасца табе жыць з ім, як суседка з суседам, і пагасіць свае пачуцці. А што датычыць мужчынска-жаночых спраў, дык мо час ужо зірнуць у іншы бок. Жадаю поспеху!

**СЭРЦАЙКА**